КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 10 (282) ◂ 7 сакавіка ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**МІХАІЛ ТУМЕЛЯ**

Стар. 6

**РАСІЯ: ВЫБАРЫ ЗАКОНЧЫЛІСЯ — ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЛІСЯ**

Перамога Пуціна была запраграмаваная, аднак узровень яе элегантнасці выклікае вялікія сумненні

Стар. 4

**ЦІ ПАТРЭБНА НАМ СІНАФОБІЯ?**

Беларуская палітычная дыскусія блізкая да таго, каб стаўленне да кітайцаў стала часткай грамадскіх настрояў. Як сведчыць вопыт іншых краін, лепш па магчымасці гэтага пазбегнуць

Стар. 13

**ПРА ШТО НАГАДАЎ СТАРЫ ЗДЫМАК**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**БЕЛАРУСЫ Ў ВОЙСКУ ПОЛЬСКІМ**

Артыкул гісторыка Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# 8 САКАВІКА: ЖАНОЧЫ ПОГЛЯД

Генадзь КЕСНЕР

**8-га сакавіка яшчэ ад савецкіх часоў у многіх асацыіруецца са святам вясны. У бытнасць СССР і сацыялістычнага лагера ў цэлым 8-га сакавіка адзначалася як Міжнародны жаночы дзень. Ад тых часоў у многіх стаўленне да гэтай даты змянілася. Як успрымаюць 8-га сакавіка нашы суайчынніцы сёння?**




**Вольга Абрамава, палітолаг, былы дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання і Палаты прадстаўнікоў:**

— Я добра стаўлюся да гэтай даты. Нейкія традыцыі засталіся з савецкага часу. Напрыклад, для сябе асабіста 23-га лютага я называю днём жаночай салідарнасці з мужчынамі, а 8-га сакавіка — гэта дзень мужчынскае салідарнасці з жанчынамі.

**Наста Палажанка, намесніца старшыні зарэгістраванай у Чэхіі Міжнароднай арганізацыі «Малады фронт»:**

— Я дастаткова роўна стаўлюся да 8-га сакавіка. Па мне, у цяперашняй сітуацыі, канешне, больш бы святаў, ды харошых, а з пункту гледжання нейкага там ідэалагічнага падмурку маё стаўленне да гэтага дня дастаткова халоднае. Свята ўсё ж такое нейкае бальшавіцкае, але гледзячы, як яго падаваць. Я думаю, што свята вясны ў нашай краіне неабходнае, як з пункту гледжання чалавечага, так і з пункту гледжання палітычнага.

**Ірына Халіп, журналістка, жонка палітычнага зняволенага, кандыдата ў прэзідэнты Беларусі на выбарах 2010 года Андрэя Саннікава:**

— Я зараз да 8-га сакавіка стаўлюся як да вялікага свята, таму што ў гэты дзень нарадзіўся мой муж. Гэта раней, яшчэ да шлюбу, 8-е сакавіка для мяне было нечым кшталту свята Кларачкі і Розачкі, якое я не ўспрымала. Але зараз гэта Дзень нараджэння майго мужа, гэта сямейнае свята, і нават зараз, у адсутнасць Андрэя, мы, безумоўна, сям'ёю будзем яго адзначаць. На вялікі жаль, пакуль ніякай новай інфармацыі пра Андрэя мы не маем, 7-га сакавіка ў калонію паедзе адвакат, можа, штосьці-небудзь стане вядома.

**Ніна Стужынская, гісторык:**

— Стаўлюся да гэтага дня скептычна. Адзін раз на год успамінаюць — гэта, як я кажу, правераць, ці жывы ты яшчэ. Ну, хоць адзін дзень, і тое добра. Але гэтае свята нейкае ненатуральнае. Кветкі трэба дарыць не адзін раз на год, а то знайшлі нагоду! Як гісторык я вельмі добра памятаю, чаму гэтае свята нарадзілася. Гэта была прапанова выступіць жанчынам за свае правы ва ўсім свеце. Правоў мы не дачакаліся, а змест свята згубіўся. Для мяне асабіста ніякага свята няма, я зараз працую, пішу новую кніжку па мяцяжах ва Усходняй Беларусі. Трэба хутка тыя матэрыялы, якія я маю, апрацаваць і аддаць у друк.

**Таццяна Равяка, праваабаронца:**

— Зразумела, што з самага дзяцінства ўкладалася ў свядомасць, што 8-га сакавіка — гэта свята. Бацькі віншаваў, віншавалі ў школе. Але зараз я не магу сказаць, што гэта для мяне такое свята, калі я думаю пра нешта жаночае, пра нейкую салідарнасць, не. Відаць, для мяне святочныя дні не вызначаны па календары, а вызначаны нейкімі добрымі падзеямі, якія звязаны з маёй жаночай сутнасцю па жыцці. Відаць, для мяне 8-га сакавіка — не важнае свята, хаця нельга сказаць, што гэты традыцыйна выхаваны элемент адсутнічае. Зразумела, што і на гэтае 8-е сакавіка я атрымаю нейкія віншаванні, кветкі, падарункі, але сказаць, што для мяне гэта падкрэсліць маю жаночую сутнасць, то не. У свядомасці гэта захаванае, а па жыцці я стаўлюся да гэтага даволі абыякава.

**Антаніна Хатэнка, паэтка, культуролаг:**

— Я даволі доўга катэгарычна адмаўляла гэты дзень. Як тое на хвалі дзевяностых здавалася, што ўсё адграбем, усё адкінем і нанова пачнём. Але такія рэчы ні за год, ні за дзесяцігоддзе не робяцца, таму, прыглядаючыся, як яно ў соцыуме складаецца, так, відаць, яго і трэба прымаць. Гэта дзень, па праўдзе, ужо трансфармаваўся ў нешта такое вясновае, жаноцкае, мала прывязанае да тых ідэяў, што некалі закладалі заснавальнікі. І што самае дзіўнае, і чаму я адмаўляла на пачатку гэтае свята: некалі, калі я толькі трошачку пачала займацца міфалогіяй, залазіла ў міфы іншых народаў, у тым ліку і зусім адрозных ад нас па ментальнасці, я дазналася, што ў іудзейскай міфалогіі менавіта гэты вясновы дзень — ну, можа, не так менавіта 8-га сакавіка — прысвячаўся жанчынам-блудніцам. І вось гэта адпрэчыла мяне цалкам ад 8-га сакавіка, ад інтэрнацыяналізму і ад эмансіпацыі. А калі напаўняць сваім зместам і вось гэты вясновы настрой сярэдзіннага чалавечага абнаўлення пераводзіць у іншыя канцэпты, то навошта адкідаць? Усялякую форму можна напоўніць зусім іншым пітвом, і ўсё будзе здарова.

## СКАНДАЛ

### БЕЛААЗЁРСК. ЗАВОД ПАКУЛЬ БУДАВАЦЬ НЕ БУДУЦЬ

Каардынатар Руху «За Свабоду» па Брэстчыне Зміцер Траццяк атрымаў на свой запыт адказ з аблвыканкама, у якім гаворыцца пра прыпыненне дзяржаўнай экалагічнай экспертызай Мінпрыроды будаўніцтва завода па вытворчасці свінцу, пакуль у праект не будуць унесеныя неабходныя змены.

У лісце ад намесніка старшыні аблвыканкама спадара Бухавецкага таксама гаворыцца, што чыноўнікі Бярозаўскага райвыканкама стварылі адпаведную камісію, якая займалася падрыхтоўкай і правядзеннем нібыта грамадскага абмеркавання праекту пабудовы ў Белаазёрску завода па вытворчасці свінцу. Аднак грамадскія слуханні, датычныя ацэнкі ўздзеяння шкоднага прадпрыемства на асяроддзе, не праводзіліся ў адпаведнасці з пунктам 45 Палажэння пра парадак правядзення ацэнкі ўздзеяння на асяродак, прынятага Пастановай Саўміна № 755 у 2010 годзе. Маўляў, грамадзяне ў 10-дзённы тэрмін ад пачатку працы камісіі не праявілі цікавасці.

Каардынатар Руху «За Свабоду» лічыць, што ліст з подпісамі больш трыццаці жыхароў Белаазёрска прымусіў улады паставіцца да праблемы больш адказна. Да ацэнкі праекта былі прыцягнуты эксперты Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы наваколля, якія далі адмоўнае заключэнне па праекту будаўніцтва «Завода па вытворчасці свінцу і сплаваў на базе ЦРМ у г. Белаазёрску Брэсцкай вобласці». Цяпер замоўца не мае права працягваць будаўніцтва да ўнясення ў праект зменаў і зацвярджэння іх у адпаведнасці з заканадаўствам.

**Паводле рух.by**

### ГОМЕЛЬ. КАЦОРА ЗВЯРНУЎСЯ Ў ААН

5 сакавіка гомельскі апазіцыянер Уладзімір Кацора звярнуўся са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека.

Актывіст лічыць, што беларускія ўлады ў асобе міліцыянераў, затрымаўшы яго за арганізацыю Народнага сходу і пакараўшы штрафам, парушылі артыкулы 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта права на свабоду распаўсюду інфармацыі і мірных сходаў.

Актывіст быў затрыманы 8 кастрычніка, у дзень правядзення Народнага сходу, а 10 кастрычніка суд прызнаў яго вінаватым у парушэнні артыкулу 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства) і пакараў штрафам у памеры 350 тысяч рублёў. Уладзімір Кацора не згадзіўся з пастановай раённага суда і абскардзіў яе ў вышэйстаячых інстанцыях — абласным і Вярхоўным судзе. Але скаргі не былі задаволены.

У звароце ў Камітэт ААН апазіцыянер нагадвае, што Народны сход праводзіўся менавіта ў адпаведнасці з законам «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах». Разам з тым, на судзе Уладзіміру Кацору інкрымінавалі парушэнне закону «Аб масавых мерапрыемствах».

«Супрацоўнікі міліцыі не мелі законнага права кваліфікаваць мае дзеянні нормамі закону «Аб масавых мерапрыемствах», паколькі гэтыя дзеянні па распаўсюджванні друкаванай прадукцыі з заклікамі да ўдзелу ў мясцовым сходзе рэгулююцца законам «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах». Маё права на свабоду правядзення мірных сходаў было абмежавана, а па якой прычыне — ні міліцыя, ні суд мне гэтага не патлумачылі», — каментуе Уладзімір Кацора.

Уладзімір Кацора просіць Камітэт ААН разглядзець яго скаргу, вызначыць факт парушэння з боку дзяржавы яго правоў, гарантаваных артыкуламі 19 і 21 Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, і раіць Беларусі прывесці нормы закону «Аб масавых мерапрыемствах» у адпаведнасць з міжнароднымі абавязкамі.

**Паводле gomelspring.org**

## ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ПЕРШЫ ЛІСТ АД БЯЛЯЦКАГА

**Жонка палітычнага зняволенага, кіраўніка праваабарончай арганізацыі «Вясна» Алеся Бяляцкага Наталля Пінчук атрымала ад яго першую паштоўку з Бабруйскай калоніі.**

Ён пераведзены туды з Жодзінскай турмы. Падчас этапу ад Бяляцкага ніякіх лістоў не было. Паштоўка з калоніі датавана 29 лютым. Па словах Наталлі Пінчук, паштоўка вельмі кароткая, але важная для яе.

«Даўно ўжо чакала гэты ліст, гэтае паведамленне аб тым, што ён сапраўды можа пісаць, што ён жывы, і ў гэтым сэнсе для мяне гэта важная падзея. Ён паведамляе, што яго давезлі да месца прызначэння нармальна, цяпер асвойваецца», — распавяла Наталля.

Алесь Бяляцкі прыгавораны да 4 гадоў і 6 месяцаў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Прысуд быў вынесены 24 лістапада 2011 года суддзёй Першамайскага раённага суда Мінска Сяргеем Бандарэнкам.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# НА АКТЫВІСТАЎ ЗНОЎ ЦІСНУЦЬ

**Ціск на актывіста «Маладога фронту» Рамана Пратасевіча працягваецца. Гэтым разам хлопца непакояць супрацоўнікі міліцыі.**

5 сакавіка цягам дня на мабільны тэлефон хлопца тэлефанавалі каля сямі разоў з тэлефона са схаваным нумарам. Калі юнак усё ж такі адказаў, чалавек, які назваўся Аляксандрам Мікалаевічам, паведаміў Раману, што той мусіць 7 сакавіка а 15 гадзіне прыйсці па адрасе Дабрамысленскі завулак, дом 5 на «размову».

«Я адказаў гэтаму чалавеку, што нікуды не пайду, пакуль мяне не выклікаюць афіцыйнай позвай, як гэта прадугледжана нашым заканадаўствам. Мяркую, што гэтыя захады супрацоўнікаў звязаныя з маім удзелам у акцыі ля амбасады Расіі», — каментуе маладафронтавец.

Нагадаем, што пасля акцыі салідарнасці з палітвязнямі 19 снежня 2011 года на актывістаў «Маладога фронту» аказваўся ціск з боку супрацоўнікаў КДБ. У прыватнасці Рамана забралі на «размову» з дому і пагражалі праблемамі, калі хлопец не спыніць грамадскую дзейнасць.

**Паводле прэс-службы «Маладога фронту»**

## СМІ

# АДМАЎЛЯЮЦЬ У ІНФАРМАЦЫІ

**Карэспандэнтцы баранавіцкай газеты Intex-press Наталлі Саламянцы не ўдалося атрымаць інфармацыю пра колькасць узятых у горадзе шлюбаў.**

Начальнік аддзелу ЗАГС Баранавіцкага гарвыканкама Святлана Валынец 1 сакавіка адмовілася прадставіць карэспандэнту выдання гэтую інфармацыю, заявіўшы, што яе паведамяць 2 сакавіка на пасяджэнні гарвыканкама.

Аднак з-за недахопу часу цалкам агучыць даведку ёй не ўдалося. 5 сакавіка яна зноў адмовілася прадставіць журналісту па тэлефоне дадзеныя, якіх не хапала, на гэты раз параіўшы звярнуцца па неабходную інфармацыю да дзяржаўнай газеты «Наш край».

Дагэтуль Святлана Валынец дзейнічала па іншай схеме: рэкамендавала патэлефанаваць у аддзел ідэалогіі Баранавіцкага гарвыканкама і спытаць дазволу на азнаямленне з інфармацыяй у яго начальніцы Таццяны Жытко, што нязменна выклікала неразуменне ў гарвыканкаме. Зрэшты, нягледзячы на гэта, праблема з атрыманнем інфармацыі ў аддзеле ЗАГС у журналістаў незалежнага выдання так і не вырашылася.

Рэдакцыя накіравала пісьмовы запыт у аддзел ЗАГС і рыхтуе заяву пра садзеянне ў атрыманні інфармацыі ў пракуратуру.

**Служба маніторынгу ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

## БАРАЦЬБА

# КАВАЛЕНКА ПРАЦЯГВАЕ ГАЛАДОЎКУ

**5 сакавіка ў рэспубліканскім турэмным шпіталі, які знаходзіцца пры следчым ізалятары на вуліцы Валадарскага ў Мінску, з Сяргеем Каваленкам пабачыліся ягоныя родныя — маці, брат Віталь і 7-гадовы сын Валянцін.**

У турэмны шпіталь на Валадарцы Каваленку паклалі амаль тыдзень таму, 28 лютага. У Мінск яго перавезлі ў сувязі з пагаршэннем здароўя ў выніку працяглай галадоўкі. Падчас яе актывіст КХП-БНФ страціў 30 кілаграмаў вагі.

Паводле маці палітвязня Лідзіі Каваленкі, яе сын сам прыйшоў на спатканне, але выглядае ён зусім худым і слабым. Пры гэтым ён, як і раней жонцы Алене, заявіў, што будзе трымаць галадоўку і далей.

У мінскім ізалятары Каваленка знаходзіцца ў агульнай камеры з іншымі людзьмі, а не ў адзіночцы, як гэта было ў Віцебску. Аднак у адзіночцы хаця б ніхто не паліў, а зараз Сяргей пакутуе ад тытунёвага смуроду, што ўтвараюць ягоныя сукамернікі.

Адгаварыць яго ад галадоўкі не атрымоўваецца. Таму актывісты зарэгістравана ў Чэхіі Маладога фронту выступілі з ініцыятывай патрабаваць ад пракуратуры перавесці яго пад хатні арышт па стану здароўя.

І прапануюць усім неабыякавым людзям напісаць звароты ў Генеральную пракуратуру.

Прыкладны тэкст звароту змешчаны на сайце mfront.net, а таксама на нашым сайце novychas.org.

## СПАДЧЫНА

# ГРАМАДСКАСЦЬ ПАКУЛЬ ПЕРАМАГЛА

Марат ГАРАВЫ

**Інвестыцыйная дамова па рэалізацыі архітэктурнага праекта ў гістарычным цэнтры Магілёва можа быць скасавана, калі да пачатку красавіка праект не будзе дапрацаваны з улікам патрабаванняў заканадаўства.**




Пра гэта ў каментары «НЧ» паведаміў старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГК) Антон Астаповіч. Паводле яго слоў, гаворка ідзе пра вынікі грамадскага абмеркавання праекта прыбудовы да гандлёвага цэнтра «Магніт» з добраўпарадкаваннем прылягаючай тэрыторыі, што плануецца рэалізаваць па вуліцы Першамайскай, побач з будынкамі былых пазямельна-сялянскага банку і дваранскага сходу (абодва — помнікі архітэктуры XIX — пачатку XX стагоддзяў з элементамі мадэрну, класіцызму і псеўдарускага стылю).

Як раней паведамляў НЧ, ініцыятарамі абмеркавання, што праводзілася з 21 студзеня па 10 лютага, сталі Магілёўская гарадская арганізацыя РГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» на чале з Алегам Дзячковым і актывісты абласнога аддзялення БДТАПКГ.

Праблема ўзнікла восенню мінулага года, калі грамадскасці стала вядома пра праект прыбудовы (заказчык — кіраўнік гандлёвай сеткі «МагнітСэрвісЦэнтр» Барыс Вакуленка і генпраекціроўшчык — мінскі архітэктар Міхаіл Вінаградаў).

Прадстаўнікі грамадскасці лічаць, што ўзвядзенне прыбудовы да гандлёвага цэнтру з'яўляецца незаконным, паколькі не адпавядае прававым і метадычным крытэрыям прац у гістарычным цэнтры горада.

Зыходзячы з таго, што заказчык і праекціроўшчык аб'екта праігнаравалі прадпісанні Міністэрства культуры аб абавязковым правядзенні комплексных навуковых даследаванняў, грамадства звярнулася да гарадскіх уладаў з прапановай правесці праверку законнасці планаў узвядзення ў гістарычным цэнтры Магілёва прыбудовы да «Магніта».

Паколькі органы дзяржкантролю пацвердзілі факты парушэння заканадаўства пры праектаванні аб'екта, Магілёўскі гарвыканкам згадзіўся на правядзенне грамадскага абмеркавання праекта.

Паводле Астаповіча, падчас адкрытых слуханняў аргументаванай пазіцыі грамадскасці прыхільнікі праекта супрацьпаставілі зняважлівыя выпады на ўзроўні «дэбілы» і «ідыёты», што было заўважана памочнікам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, галоўным інспектарам па Магілёўскай вобласці Генадзем Лаўранковым. «Асабліва цынічным з боку інвестараў «Магніту» выглядала прыцягненне ў шэрагі сваіх прыхільнікаў інвалідаў-калясачнікаў», — зазначыў Астаповіч.

Разам з тым, паводле яго слоў, права, аргументы і здаровы сэнс перамаглі. «Нават калі праціўнікі праекту былі ў меншасці, ён так і не быў ухвалены. Аўтарам праекта ў каторы раз прадпісана прывесці свае прапановы ў адпаведнасць з заканадаўствам, а з вуснаў Лаўранкова прагучалі досыць рэзкія і прынцыповыя словы аб магчымым скасаванні інвестыцыйнай дамовы пры невыкананні жорсткіх прававых нормаў», — сказаў Астаповіч.

Паводле яго слоў, праект прыбудовы да «Магніта» ўжо можна назваць рэкардсменам, бо ён не прайшоў чатыры горадабудаўнічыя саветы і адно грамадскае абмеркаванне.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# КІМ БЫЦЬ ЛЕПШ?

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Здаецца, што скандал з еўрапейскімі пасламі беларускую ўладу нічому не навучыў.**

Кіраўнік краіны абрынуўся з крытыкай на Еўропу. Беларусь будзе жорстка рэагаваць на санкцыі, заявіў беларускі кіраўнік журналістам 4 сакавіка ў Раўбічах, дзе праходзіла спартыўнае свята «Мінская лыжня–2012». «Гэта абсалютная істэрыка, і, як вы бачыце, у авангардзе два тыпы палітыкаў або наогул два тыпы ад палітыкі: адзін жыве ў Варшаве, другі — у Берліне», — заявіў Лукашэнка.

«Ну, калі аднаму нашаму суседу карціць, зразумела. Я ж кажу, што там карты ўжо намаляваны да Мінска, там ужо тэрыторыя Польшчы. Зразумела, трэба неяк гэтыя малюнкі падтрымліваць, падмацоўваць, апраўдваць. Таму і ідуць такія заявы. Я толькі не ведаю, якое дачыненне гэтыя палітыкі маюць да польскага народа ці польскі народ да гэтых палітыкаў. Гэта наогул чужыя людзі для Польшчы», — упэўнены Лукашэнка.

«Што тычыцца другога, ці то ружовага, ці то блакітнага, які там пра дыктатуру крычаў... Пачуўшы гэта, я падумаў: лепш быць дыктатарам, чым блакітным. Але Гасподзь з ім, пытанне ў іншым: мы ўсе памятаем сярэдзіну мінулага стагоддзя, і што свет атрымаў ад іх дыктатуры. Наш народ яшчэ не апамятаўся дагэтуль. Таму не ім нас папракаць наконт нейкай дыктатуры. Я на гэту тэму наогул разважаць не хачу», — сказаў беларускі кіраўнік.

Як мне, дык лепш быць блакітным, чым дыктатарам, якога падазраюць калі не ў забойствах, дык у замовах гэтых забойстваў.

А між іншым, Лукашэнка казаў, што ён адказны за тое, што адбываецца ў краіне. Больш за 10 гадоў прайшло з моманту знікнення не самых апошніх асобаў у Беларусі. І дагэтуль справы не скончаны, вінаватых няма.

«Мяне ў свой час здзівіла, наколькі кіраўнікі ў Германіі (10–15 гадоў таму) трапятліва ставяцца да людзей, якія пацярпелі ў гады Другой сусветнай вайны. Усе кланяюцца, на калені становяцца, кветкі загінулым нясуць. Намі страчана трацина свайго насельніцтва. Дык вы з намі яшчэ за гэта не разлічыліся. Што вы нас нахіляеце пастаянна? І я сёння зразумеў, што ўсё гэта было гульнёй з боку палітыкаў Германіі. Калі б гэта была не гульня, яны б цанілі нас за тое, што мы не толькі свет выратавалі ад карычневай чумы, але і насельніцтва Германіі. Гэта мяне больш за ўсё непакоіць: як жа так хутка можна было забыць усё гэта?» — абурыўся Лукашэнка.

Чаму Германія павінна «разлічвацца»? Яны ўжо разлічыліся — рэпарацыямі, тэхналогіямі, практычнымі распрацоўкамі. Пры гэтым, разлічыліся з СССР. Больш за тое, палова Мінска была адбудавана нямецкімі ваеннапалоннымі. А мы дагэтуль супраціўляемся таму, каб памяць загінулых салдатаў з боку Германіі была належным чынам ушанавана.

Салдат — гэта салдат. Ён выконвае загады, якія «не абмяркоўваюцца». Дык чаму ж у Германіі «на калені становяцца, кветкі загінулым нясуць», а мы гэтага не робім?

Што б ні казаў беларускі правадыр, але ў Еўропе нават не згадваюць, як «гнілі ў акопах» і нашыя, і іхнія салдаты. Пэўна таму, што там не лічаць мэтазгодным выкарыстоўваць памяць пра загінулых у палітычных мэтах. Зрэшты, ніхто з еўрапейскіх палітыкаў не ўдзельнічаў у Другой сусветнай вайне, і ніхто з іх персанальна не адказны за страты Беларусі, Расіі, Азербайджана, Украіны, Грузіі. Малдовы, Літвы. Латвіі, Эстоніі, і іншых рэспублік, якія ўваходзілі ў СССР. І абвінавачваць іх у стратах Беларусі — некарэктна, мякка кажучы.

Але зараз Еўропу цікавіць не мінулае, а цяперашняе. Сітуацыя ў Беларусі абмяркоўвалася міністрамі замежных спраў краін Вышаградскай групы і краін Усходняга партнёрства ў Празе 5 сакавіка.

У сумеснай заяве кіраўнікі МЗС краін Вышаградскай групы выказана занепакоенасць пагаршэннем адносінаў паміж Еўрасаюзам і Беларуссю, адсутнасцю прагрэсу ў сферы правоў чалавека ў Беларусі, а таксама рэпрэсіямі з боку ўлад у дачыненні да апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.

Міністры падкрэсліваюць: аднаўленне дыялогу з афіцыйным Мінскам магчымае толькі пры ўмове змянення яго палітыкі, вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітзняволеных.

Пакуль беларускі правадыр размахвае лыжамі, астатнія беларускія чыноўнікі працягваюць звяртацца на Захад. Беларусь спадзяецца атрымаць крэдыт ад МВФ. Але МВФ не вельмі хоча яго выдаваць.

Міжнародны валютны фонд па выніках працы сваёй агляднай місіі ў Мінску сфармуляваў умовы разгляду пытання аб магчымасці фінансавай падтрымкі Беларусі.

Як паведаміў кіраўнік місіі МВФ у Беларусі Крыс Джарвіс 5 сакавіка на прэс-канферэнцыі, эксперты фонду падчас працы ў Мінску абмяркавалі зварот Беларусі па фінансавую падтрымку. Паводле яго слоў, у гэтым пытанні з боку фонду існуе некалькі крокаў. Пры гэтым, адзначыў Джарвіс, вызначэнне «аб'ёмаў фінансавання, якія могуць спатрэбіцца краіне», — адзін з апошніх крокаў. Першы крок — «вызначэнне неабходнай эканамічнай палітыкі і ўпэўненасць поўнай яе падтрымкі».

«Мы павінны быць упэўнены, што людзі і структуры, якія адказваюць за прыняцце рашэнняў на самым высокім узроўні, падтрымліваюць прапанаваныя меры эканамічнай палітыкі. Таму для таго, каб мы маглі пачаць разгляд пытання аб магчымай новай праграме супрацоўніцтва Беларусі і МВФ, нам спачатку неабходна пераканацца, што такая падтрымка прапанаваных мер і рэформ сапраўды існуе», — падкрэсліў кіраўнік місіі МВФ у Беларусі.

«Нам таксама будзе неабходна ўпэўненасць у тым, што новая праграма будзе падтрымана краінамі — сябрамі МВФ», — дадаў ён.

Каментуючы, як можа паўплываць абвастрэнне адносінаў Беларусі з Еўрасаюзам, на рашэнне МВФ аб выдзяленні крэдыту, Джарвіс адзначыў: «Мы не можам прадбачыць, што будзе ўплываць на рашэнне і паводзіны краін — сябраў МВФ. Са свайго боку мы хацелі б аказаць падтрымку Нацыянальнаму банку і ўраду ў распрацоўцы настолькі надзейнай і абгрунтаванай эканамічнай палітыкі, якая была б падтрымана ўсімі краінамі — сябрамі МВФ».

Хутчэй за ўсё, не пабачым мы крэдыту МВФ, як сваіх вушэй без люстэрка.




## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### ДАР'Я ДОМРАЧАВА

Домрачава выйграла залаты медаль чэмпіянату свету па біятлоне ў нямецкім Рупольдынгу. Мінчанка з двума промахамі першынствавала ў гонцы пераследу.

Адразу пасля фінішу старшы трэнер жаночай зборнай Германіі Геральд Хеніг звярнуўся да суддзі спаборніцтваў з просьбай пагля дзець паўтор чацвёртай стральбы Нойнер. На думку немцаў, першая мішэнь, нягледзячы на траплянне, не зачынілася — і Нойнер давялося праехаць 2 штрафныя кругі замест аднаго. Пасля прагляду шматлікіх паўтораў нямецкі штаб вырашыў не падаваць пратэст на вынікі гонкі, паведамляе Sports.ru.

«Мара ажыццявілася, і, вядома, адчуваю сябе выдатна. Мы змагаемся з Нойнер на працягу ўсяго сезону, прыемна, што ўдалося апярэдзіць яе сёння», — цытуе Домрачаву Biathlon-Online.

11-разовая чэмпіёнка свету Магдалена Нойнер у інтэрв'ю «Спорт-Экспресс» распавяла аб стаўленні да сваёй бліжэйшай канкурэнткі Дар'і Домрачавай: «Калі я чую «Дар'я Домрачава», гэта міжволі выклікае ў мяне ўнутраныя дрыжыкі, а часам і мурашкі. Не думаю, што Даша менш чым я рвеціца перамагчы. І ўжо сапраўды яна ніколі нічога не аддасць на лыжні проста так. З ёй заўсёды цікава».

Раней Дар'я Домрачава выйграла срэбра ў спрынце на чэмпіянаце свету, саступіўшы Нойнер 15 секунд. Трэцяй з адставаннем у 37 секунд стала ўкраінка Віта Семярэнка. Усе тры прызёркі прайшлі гонку без штрафных колаў.

### АЛЯКСАНДРА ДЗЕНІСЕНЯ



Беларусь на конкурсе маладых музыкантаў «Еўрабачанне–2012» прадставіць навучэнка Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (БДАМ) цымбалістка Аляксандра Дзенісеня. Аляксандру ў нацыянальным конкурсе адабрала журы пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі, прафесара БДАМ, кіраўніка Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Івана Жыновіча Міхаіла Казінца, — піша БелаПАН.

Аляксандра Дзенісеня з'яўляецца лаўрэатам шматлікіх міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Неаднаразова выступала з вядучымі беларускімі аркестрамі — Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным, Дзяржаўным камерным, Дзяржаўным акадэмічным народным імя Жыновіча. У суправаджэнні канцэртнага аркестра Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры БДАМ выступала ў Вялікабрытаніі, Бельгіі, Бахрэйне, Аб'яднаных Арабскіх Эміратах.

Спецыяльна да конкурсу беларускі кампазітар Уладзімір Кур'ян зрабіў для Аляксандры рэдакцыю аднаго са сваіх лепшых твораў — «канцэрціна для цымбалаў і струннага аркестра».

«Еўрабачанне» маладых музыкаў — міжнародны конкурс класічнай музыкі для маладых таленавітых выканаўцаў, які праходзіць раз на два гады. У ім могуць прымаць удзел музыкі, якія валодаюць любымі інструментамі, для якіх напісаны сольныя творы ў суправаджэнні аркестра. Беларусь удзельнічае ў конкурсе другі раз. Першым удзельнікам у 2010 годзе быў віяланчэліст Іван Карызна, які выйшаў у фінал.

### МІХАІЛ РУСЫ



Апошнім часам Беларусь актыўна асвойвае афрыканскі кантынент. Вось і міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Міхаіл Русы на сустрэчы ў Мінску з паслом Алжыра ў Расійскай Федэрацыі і Беларусі Смаілім Шэргі заявіў, што наша краіна зацікаўленая ў прыходзе буйных алжырскіх інвестараў у розныя сферы беларускай сельскай гаспадаркі.

Міністр пацвердзіў гатоўнасць беларускага боку аказваць разнастайнае садзейнічанне паспяховай рэалізацыі інвестпраектаў. Міхаіл Русы падкрэсліў, што Беларусь разглядае Алжыр у якасці перспектыўнага партнёра ў Паўночнай Афрыцы, і адзначыў гатоўнасць Мінсельгасхарчу да шырокамаштабнага супрацоўніцтва з алжырскім бокам у сферы АПК.

На думку Русага, беларуская сельгаспрадукцыя і харчаванне могуць быць запатрабаванымі на рынку Алжыра, перш за ўсё гэта датычыцца малочнай прадукцыі. Акрамя таго, Беларусь можа пастаўляць у Алжыр мяса (ялавічыну і птушку), муку пшанічную і жытнюю. Са свайго боку Беларусь зацікаўлена ў імпарце з Алжыру садавіны, сухафруктаў і іншых тавараў.

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# РАСІЯ: ВЫБАРЫ ЗАКОНЧЫЛІСЯ — ПРАБЛЕМЫ ЗАСТАЛІСЯ

Сяргей НІКАЛЮК

**Перамога Пуціна была запраграмаваная, аднак узровень яе элегантнасці выклікае вялікія сумненні.**

Як і прадказвалі сацыёлагі, кандыдат улады ўпэўнена перамог у першым туры. Паводле «Левада-цэнтра», ён павінен быў набраць 66 працэнтаў галасоў, а атрымаў 64 працэнты (статыстычная памылка — 3 працэнта). Зрэшты, такі вынік пры сярэдняй мінулагодняй цане нафты за барэль у 111 долараў не здзіўляе. Ламаць структуру эканомікі на беларускі лад дзеля дасягнення «элегантнай перамогі» не давялося.




## Зламаны сцэнар

Уменне адцярушваць зерне ад паловы сёння такое ж надзённае, як і ў біблейскія часы. Таму не варта разглядаць вяртанне Пуціна ў Крэмль як падзею. Падзея — гэта вяртанне ў Расію палітыкі. Пра яе прышэсце адназначна сведчаць дадзеныя сацапытанняў. Параўнайце: у 2007 годзе колькасць аптымістаў, што верылі ў развіццё краіны, складала, паводле «Левада-цэнтра», 38%, у 2011 годзе — 18%. Колькасць жа песімістаў, якія думалі, што надышоў застой, наадварот, павялічылася з 21% да 36%. За гэты ж час стала значна больш грамадзян (з 20 да 50 працэнтаў), якія згодныя з тым, што бюракратыя ды карупцыя ў краіне ад часоў Ельцына выраслі.

На фоне такіх «поспехаў» згубіў прыцягальнасць пуцінскі вертыкальна-іерархічны прынцып арганізацыі ўлады: калі ў 2008 годзе ў карыснасць дзейнасці «вертыкалі» верылі 42%, дык у 2012 — толькі 30%. Таму цалкам лагічна, што патрэба ва ўмацаванні ўлады змянілася неабходнасцю паставіць яе пад кантроль грамадства, і сёння колькасць тых, хто лічыць вартым паставіць уладу пад кантроль, удвая пераўзыходзіць колькасць аматараў яе ўмацавання (60% супраць 30%).

У якасці доказу паспяховасці сваёй сацыяльна-эканамічнай палітыкі Пуцін часта спасылаўся на колькасны рост сярэдняга класу. Паводле падлікаў наноў абранага, зараз сярэдні клас складае каля 30 працэнтаў. Аднак пра рэальную яго колькасць можна спрачацца. Паводле крытэраў Сусветнага банку, сярэднямесячны прыбытак прадстаўніка сярэдняга класу пачынаецца ад 3,5 тысяч долараў. Згодна з такім падыходам, Расіі і на 5% не наскрэбці. Аднак якую б пачатковую лічбу мы ні бралі, колькасць расіян з вышэйшай адукацыяй, якія карыстаюцца інтэрнэтам і маюць уласнае жытло, увесь час павялічваецца.

Але не варта забываць, што сярэдні клас — панятак не столькі спажывецкі, колькі грамадзянскі. Пуцін з гэтым не спрачаецца. Працытую адзін з яго перадвыбарчых артыкулаў: «Сёння наша грамадства зусім іншае, чым у пачатку 2000-х гадоў. Многія людзі сталі больш забяспечанымі, больш адукаванымі і больш патрабавальнымі. Іншыя патрабаванні да ўлады, выхад сярэдняга класа з вузкага кола наладжвання ўласнага дабрабыту — гэта вынік нашых намаганняў. Мы дзеля гэтага працавалі».

Як кажуць, наткнуліся на тое, за што змагаліся. Расійскі аўтарытарызм, гэтак жа, як капіталізм паводле Маркса, сам вырошчвае сабе далакопа. У снежні далакоп заявіў пра сябе, прычым так рашуча, што звыклы сцэнар прэзідэнцкіх выбараў быў зламаны. Звыклы сцэнар, нагадаем, прадугледжваў наяўнасць звышмоцнага кандыдата ад улады, які, нібы скала, узвышаецца над сваімі канкурэнтамі. Такая безумоўная перавага дасягаецца, па-першае, за кошт няроўнасці медыйных рэсурсаў кандыдатаў, па-другое, за кошт банальнай скупкі галасоў выбарцаў. Зразумела, што галасы купляюцца на бюджэтныя сродкі, г. зн. на грошы саміх выбарцаў, і магчымасцю здзейсніць такога кшталту камерцыйныя здзелкі валодае толькі ўладны кандыдат.

Выбары–2012, на думку расійскага эканаміста Георгія Сатарава, адрозніваюцца ад усіх мінулых тым, што «людзі, якія выходзяць на Балотную плошчу і Якіманку, яны яму (Пуціну) не зразумелыя. Яны ў яго не просяць кавалак хлеба, яны ў яго просяць грамадзянскія свабоды, яны ў яго просяць дэмакратычныя правы, яны ў яго просяць сумленныя выбары». Адназначым, што новыя «прасіцелі» досыць хутка радыкалізуюцца: у якасці першай мішэні яны абралі «Адзіную Расію», аднак хутка пераключыліся на старшыню ЦВК Уладзіміра Чурава. Паколькі адэкватнай рэакцыі ад улады не дачакаліся, дык усю сваю пратэстную энергію новыя «прасіцелі» скіравалі на самога Пуціна.

Уздымаць вышэй пратэстную планку ўжо няма куды. Над Пуціным начальнікаў няма, толькі самі грамадзяне (паводле Канстытуцыі). Механізм, з дапамогай якога грамадзяне могуць уплываць на першую асобу ў дзяржаве, называецца палітыкай.

## Выбар пункту апоры

Расійскае грамадства, гэтак жа, як і беларускае, расколатае на большасць і меншасць. Аднак расійскай меншасці, у адрозненні ад беларускай, улада не здольная адмовіць у праве на існаванне. Не той узровень кансалідацыі кіроўнага класа. Таму не варта дзівіцца, што лідараў пазасістэмнай апазіцыі прымаюць у Крамлі, і першыя асобы дзяржавы не называюць апазіцыянераў «адмарозкамі».

Выхад меншасці («крэатыўнага класа») са стану спячкі патрабаваў унесці адпаведныя карэкціроўкі ў выбарчую кампанію Пуціна. Адну з такіх карэкціровак я ўжо згадаў вышэй. Зразумела, што з дапамогай такога крэатыву схіліць на свой бок прадстаўнікоў «крэатыўнага класа» нельга, а перамагаць патрэбна ўжо ў першым туры, інакш легітымнасць чарговага тэрміну будзе пад пытаннем. «Міф пра «пуцінскую большасць», — кажа расійскі палітолаг Кірыл Рогаў, — патрэбны толькі для апраўдання перамогі ў першым туры. Дакладней, наадварот, — перамога ў першым туры неабходная для падтрымання міфу. Міф пра большасць і ідэалагічна, і тэхнічна — краевугольны камень пуцінізму. Ён заклікаy псіхалагічна паралізаваць апазіцыю, ён прымушае інстынктыўна далучацца да абвешчанай думкі большасці «балота». Ён выцікае ў маргінальнасць любыя інтэлектуальныя і палітычныя альтэрнатывы».

Для перамогі ў першым туры была неабходная мабілізацыя большасці, г. зн. традыцыйнага пуцінскага электарату. Чагосьці прынцыпова новага вынаходзіць дзеля гэтага не давялося. Прыдаўся выпрабаваны прыём падзелу грамадства на сваіх і чужых, на завербаваных Пуціным і завербаваных ягонымі ворагамі. Зразумела, што завербаваным апынуўся і вобраз знешняга ворага. Згадаю фрагмент выступу ўладнага кандыдата 23 лютага на стадыёне «Лужнікі» ў Маскве. «Мы не дапусцім, каб хтосьці ўмешваўся ў нашы ўнутраныя справы, каб хтосьці навязваў нам сваю волю, таму што ў нас ёсць свая воля! Яна заўсёды дапамагала нам ва ўсе часы перамагаць! Мы з вамі — народ-пераможца! Гэта ў нашых генах, у нашым генным кодзе! Гэта перадаецца ў нас з пакалення ў пакаленне! Мы і зараз пераможам! І я хачу запытаць у вас: мы пераможам?»

Калі ўлічыць, што ў гэтым годзе будзе 200-я гадавіна Барадзінскай бітвы, надзвычай арганічна прагучаў у «Лужніках» заклік памерці пад Масквой, *«как наши братья умирали»*, паводле бессмяротных радкоў з вершу Лермантава. Пасля чаго прагучаў ужо пуцінскі фінальны акорд: «Бітва за Расію працягваецца. Перамога будзе нашай! Дзякуй!»

Рэальнасць бітвы пацвердзіла паведамленне пра падрыхтоўку замаху на Пуціна. Раскрыццё тэракту было вельмі дарэчы, але не да тэрміну. 4 студзеня пры выбуху выбухоўкі прыстасавання ў жылым доме ў Адэсе адбыўся выбух. 4 студзеня ўсе тэрарысты былі затрыманыя, аднак толькі 27 лютага была агучана інфармацыя пра падрыхтоўку тэракту.

З тактычнага пункту погляду акцэнты былі расстаўлены правільна. Аснову большасці складаюць залежныя ад бюджэту людзі, якіх афіцыйная прапаганда называе народам. Аднак стымулюючы попыт на праграмы сацыяльнай дапамогі ў абмен на лаяльнасць, Пуцін і К° тым самым пазбаўляюць Расію шанцаў на мадэрнізацыю. Без апірышча на «крэатыўны клас» максімум, на што можна разлічваць, — гэта на ролю сыравіннай дзяржавы, якая мала чым адрозніваецца ад ролі сыравіннага прыдатку прамыслова развітых краінаў.

## Куранят увосень лічаць

Пуцінская вертыкаль склалася ва ўмовах высокіх цэн на нафту. Свае бягучыя праблемы яна вырашала за кошт раздачы грошай. За паспяховыя «нулявыя» гады склалася своеасаблівая палітычная каляіна, з якой кіроўнаму класу зусім не проста выйсці.

Выбары прайшлі, а праблема легітымнасці ўлады засталася. З пункту гледжання «крэатыўнага класа» выбары не былі свабоднымі. Зняцце Яўлінскага відавочна прадэманстравала, што ўмовы ўдзелу ў выбарах для не залежных ад Крамля кандыдатаў абставілі такімі нормамі, якія зрабілі бессэнсоўным збор двух мільёнаў подпісаў. Што да дапушчаных да выбараў кандыдатаў, то ні пра якую роўнасць магчымасцяў па рэкламе сябе і сваіх праграм на тэлебачанні і размовы не было. Усе нацыянальныя каналы з раніцы да вечара паказвалі сюжэты пра дзейнасць старшыні ўраду, аднак забывалі асвятляць штодзённую дзейнасць іншых кандыдатаў.

Патрабаванні «крэатыўнага класа» не могуць быць задаволеныя за кошт звычайнага дзяржаўнага патэрналізму. Гэта патрабаванні маральнага кшталту: не крадзь, не мані, шануй законы. Без іх выканання немагчыма эфектыўнае функцыянаванне дзяржавы і грамадства. «Вертыкальныя» адносіны (феадальныя па сваёй сутнасці) змяняюцца «гарызантальнымі». Ужо згаданы намі Георгій Сатараў адзначае: «Гэта сведчанне кардынальных зменаў у светапоглядзе аб'яднаных пратэстам людзей, зменаў фундаментальных асноў, якія вызначаюць адносіны сярод людзей, адносіны паміж грамадзянамі і інстытутамі ўлады. Дазволю сабе выказаць крамольную думку: гэтыя змены больш важныя за сам факт пратэсту. Яны незваротныя; ніякая прапаганда і ніякае запалохванне гэтага не зменяць».

Снежаньскія фальсіфікацыі падчас парламенцкіх выбараў не пераўзышлі звычайны ўзровень, аднак дзякуючы сумесным намаганням незалежных СМІ і грамадзян, якія актыўна выкарыстоўвалі сацыяльныя сеткі, фальсіфікацыі выклікалі публічнае асуджэнне. Пры гэтым прадстаўнікі большасці і меншасці апынуліся па розныя бакі барыкадаў. Аднак у краіне з лацінаамерыканскім узроўнем сацыяльнай няроўнасці няма гарантыі, што барыкады не будуць дэмантаваны найбліжэйшым часам. Ужо ўлетку расіян чакае павышэнне камунальных і транспартных тарыфаў, падаражанне дзіцячых садкоў, рост коштаў на бензін і яшчэ цэлы шэраг інавацый, што адсутнічалі ў перадвыбарчай праграме Пуціна.

СПРАВА

# ХТО ЗАБРАЎ У МАЦІ СЫНА?

Марат ГАРАВЫ

**Ён загінуў больш за 12 гадоў таму, але следства па гэтай справе дагэтуль не распачатае.**



Кірыла Сіняўскі з маці (пачатак 1990-х гадоў)

Здавалася, нічога не прарочыла бяду, калі раніцай 24 снежня 1999 года 32-гадовы мінчук Кірыла Сіняўскі збіраўся на працу. У яго, як заўсёды, быў добры настрой, тым больш, што набліжаўся дзень нараджэння яго адзінай пяцігадовай дачкі, і ён ужо сплanaваў, дзе адбудзецца гэтае свята. Апроч таго, набліжаліся светлыя святы Калядаў і Новага года, Кірыла атрымаў паведамленне, што можна забіраць адрамантаваны аўтамабіль, а ўвечары збіраўся з сябрамі ў лазню. Аднак усе гэтыя планы засталіся нявдзейсненымі, бо 25 снежня малады мужчына быў знойдзены роднымі ў непрытомным стане ў 9-й Мінскай гарадской клінічнай бальніцы, куды яго як невядомага даставіла брыгада хуткай медыцынскай дапамогі.

Праз тры дні Кірыла Сіняўскі пайшоў з жыцця, але крымінальная справа па факту ягонай смерці так і не была распачатая, паколькі, паводле адказу з пракуратуры горада Мінска, малады чалавек пакончыў жыццё самагубствам — «скочыў з вакна». Праз 10 гадоў пракуратура Савецкага раёна сталіцы змяніла гэтую фармулёўку на «вываліўся з вакна». Падчас знаёмства з матэрыяламі праверкі па факту смерці свайго сына Ларыса Сіняўская даведалася пра наступнае.

24 снежня 1999 года Кірыла атрымаў заробак у сваёй фірме. Потым ён купіў для дачкі падарунак — домік для лялькі Барбі, зайшоў на працу да свайго сябры, пасля чаго накіраваўся ў краму за прадуктамі, каб потым ехаць да хаты. У краме Кірыла пазнаёміўся з двума не вядомымі яму людзьмі: Раманам Шаўчэнкам з Краснадарскага краю Расіі і Віктарам Кузьменкам з Мінска. За грошы Кірылы яны купілі дзве пляшкі гарэлкі і запрасілі яго на арандаваную імі аднапакаёвую кватэру па вуліцы Някрасава, дзе знаходзіўся яшчэ адзін незнаёмы, якога звалі Сяргей. Паводле інфармацыі Ларысы Сіняўскай, Раман, Віктар і Сяргей — былыя афіцэры Савецкай Арміі, якія разам служылі і ваявалі ў Афганістане.

Праз некаторы час Кірыла патэлефанаваў на працу сябру і паведаміў знаёмай супрацоўніцы, што калі з ім нешта здарыцца, ён знаходзіцца на вуліцы Някрасава ў кватэры, з вакна якой бачны дзіцячы садок. Пры гэтым супрацоўніца чула ў кватэры гучныя мужчынскія галасы, а Кірыла гаварыў хутка, прыглушаным голасам і было адчуванне, што ён не жадае, каб яго пачулі тыя, хто знаходзіўся побач у памяшканні.

Да гэтага часу не вядома, калі дакладна пакінулі арандаваную кватэру былыя афганцы. На падлозе ў прыхожай была выяўлена пляма крыві, якая, паводле экспертызы, належала Кірылу. Пры аглядзе кватэры было ўстаноўлена, што ў пустым і брудным памяшканні знаходзілася раскладушка з падранымі коўдрамі і матрацам, вокны з цэлымі шыбамі аказаліся зачыненымі, тэлефонны провад — абарваны, адсутнічалі рэчы Кірыла: ягоная верхняя вопратка, шапка, дакументы, грошы, гадзіннік, пэйджар і сумка з падарункамі. Гаспадар кватэры паказаў, што Раман і Сяргей павінны былі з'ехаць з Беларусі яшчэ некалькі дзён таму, але ў іх не было грошай на дарогу. Аднак мужчыны адразу зніклі яшчэ да таго, як суседка выклікала пацярпеламу хуткую медычную дапамогу.

Кірыла Сіняўскі быў знойдзены ў непрытомным стане каля дома па вуліцы Някрасава. Мужчына ляжаў на спіне галавой да дому і памёр у бальніцы 27 снежня ад цяжкіх траўм галавы, не прыходзячы ў прытомнасць. Пры гэтым, як сведчыць экспертыза, у Кірылы былі цэлыя косткі канечнасцяў і шкілета, адсутнічалі сінякі на шыі, грудзях і жываце, а ў крыві не быў выяўлены этылавы спірт.

На меркаванне маці Кірылы, калі сын увайшоў у кватэру, якую арандавалі былыя афганцы, ён захацеў як мага хутчэй пакінуць гэтае памяшканне, аднак яго не выпусцілі, пра што сведчыць пляма крыві ў калідоры. «Але нават гэты факт не стаў доказам злачынства для супрацоўнікаў міліцыі, якія наогул не сталі даследаваць вокны і выяўляць на іх адбіткі пальцаў. Яны выслухалі паказанні Кузьменкі, паверылі яму, каб перад святамі не мець клопату, і спісалі злачынства на самагубства. Хаця ў Кірылы не было аніякіх падстаў для суіцыду, і ўсе сведкі гаварылі пра майго сына, як жыццярадаснага і аптымістычнага чалавека», — адзначыла Сіняўская.

За 12 гадоў пасля пагібелі сына яна так і не змагла атрымаць ад следчых адказы на шэраг пытанняў, у тым ліку і па выніках медычнай экспертызы цела Кірылы, а таксама не змагла дабіцца ад пракуратуры завядзення крымінальнай справы па факце яго пагібелі.

Следчыя лічаць, што ў смерці Кірылы адсутнічае склад злачынства. Але маці мяркуе, што следчыя не толькі не выканалі свае прафесійныя абавязкі, але і здзейснілі амаральны ўчынак у адносінах да яе сям'і, бо кінулі цень на сына. У гэтых варунках Ларыса Сіняўская звярнулася ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь з заявай і надзеяй, што будуць расстаўлены ўсе кропкі ў гэтай сумнай гісторыі.

Паводле слоў маці, Кірыла быў клапатлівым сынам, любячым бацькам, добрым сябрам, даверлівым і кампанейскім чалавекам, таму і апынуўся ў трагічнай сітуацыі. Яе бацька — савецкі афіцэр-памежнік, які з сям'ёй прыехаў на Беларусь у 1935 годзе. У 1938 годзе яго як латыша звольнілі з арміі. Але ён паехаў у Маскву шукаць праўду і... знік. Сама Ларыса Міхайлаўна пасля заканчэння фізіка-матэматычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працавала ў Міністэрстве энергетыкі, а яе муж, які закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках, быў начальнікам цэха на Мінскім трактарным заводзе.

Кірыла вельмі любіў спорт, з сямі гадоў займаўся скачкамі ў ваду з 10-мятровай вышкі, затым — ветразем спортам і горнымі лыжамі. Любіў вандраваць. Быў майстрам на ўсе рукі — мог зрабіць і рамонт у кватэры, і пашыць адзенне для дачкі, і прыгатаваць абед. Вось чаму знаёмыя маці хацелі мець Кірылу сваім зяцем. Ён закончыў два курсы факультэта «цеплавая энергетыка» Беларускага політэхнічнага інстытута і напярэдадні ў яго было ўсё жыццё, у якім Кірыла Сіняўскі яшчэ мог зрабіць людзям так многа добрага...

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# СВІНСКАЯ ГЕАПАЛІТЫКА

**Пакуль Мінск спрабуе дасягнуць перамогі ў дыпламатычнай вайне з Еўрасаюзам, наступ супраць яго падрыхтаваў Кіеў.**



Дзяржветслужба Украіны з 1 сакавіка забараніла ўвоз беларускага малака, малочных прадуктаў і свініны. Напярэдадні санітарнае ведамства Расіі забараніла экспарт сыроў трох буйных украінскіх вытворцаў, а потым выказала намер пашырыць гэты спіс. Таму, адмаўляючыся ад беларускага малочнага экспарту, Кіеў імкнецца да выратавання ўласных вытворцаў.

Украінцы забаранілі таксама экспарт жывёл, схільных да захворванняў на афрыканскую чуму свіней, прадукцыі і сыравіны з іх. Невядома, якія яшчэ безабаронныя перад АЧС жывёлы пастаўляюцца ва Украіну з Беларусі, але відавочна, што забарона тычыцца ўсяго беларускага свінства. Цікава, што беларуская свініна практычна не экспартуецца ва Украіну, дзе свайго сала хапае. Таму здаецца, што гэтая забарона носіць пратакольны і фармальны характар. На самай жа справе ўсё глыбей і значна для беларусаў горш. Справа ў тым, што фармальным повадам для часовай, падкрэслім, забароны ўвозу беларускай свініны паслужылі гучныя лютаўскія манеўры Мінсельгасхарчу і мясцовых улад у Навагрудскім раёне, калі ў прыватным сектары вёскі Нязнанава былі забіты і спалены ўсе свінні.

Гэтая акцыя выклікала абурэнне сярод грамадскасці і прыватных гаспадароў. Але Мінсельгасхарч Беларусі і мясцовае чыноўніцтва супакоілі ўсіх тым, што нічога страшнага не адбылося, што праводзіліся вучэнні, бо ў Мытным саюзе не існуе ветэрынарнага і мытнага кантролю. А выпадкі яшчуру ды АЧС там здараюцца часцяком. Таму вучэнні былі, ёсць і будуць.

Паколькі вучэнні праводзяцца выключна ў прыватным сектары, небяспекі масавага захворвання няма. Вось калі пачнуць паліць парсюкоў на фермах ды комплексах, то гэта і стане знакам свіной бяды. Магчыма, гэта ўсё зразумелі і ўкраінскія адмыслоўцы. Але ім навошта ўнікаць у такія нюансы? Цудоўная нагода адмовіцца купляць беларускую свініну, падвёўшы юрыдычную аснову пад фактычны стан рэчаў.

Па словах старшыні Дзяржветслужбы Украіны Генадзя Гаржэева, яго адмыслоўцы, якія рэгулярна маніторацт якасць сельскагаспадарчага імпарту, ужо з кастрычніка мінулага года пачалі фіксаваць у беларускім малацэ перавышэнне скрайніх норм па ўтрыманні антыбіётыкаў. У гэтым ён абвінаваціў не саміх вытворцаў, а ветэрынарны нагляд Беларусі, дзяржаўную інстанцыю, якая не забяспечыла надзейны кантроль якасці прадукцыі па ўсёй краіне. Вось такім нескладаным спосабам сп. Гаржэеў атрымаў магчымасць забараніць да ўвозу ва Украіну практычна ўсю прадукцыю жывёлагадоўлі з Беларусі.

Украінцы абяцаюць адмяніць забарону на ўвоз пасля таго, як беларускі бок прадставіць дакументальныя сведчанні аднаўлення поўнага кантролю за якасцю экспартнай прадукцыі. Прыкладна такія ж патрабаванні перыядычна высоўвае беларусам і галоўны санітарны ўрач Расіі Уладзімір Анішчанка. І ад замеру да замеру знаходзіць адхіленні ад нарматываў утрымання тых жа антыбіётыкаў у малочнай прадукцыі.

Беларусь у адказ прад'явіла ўльтыматум, згодна з якім на захаванне забаронаў з боку Украіны будзе ўведзена фактычнае эмбарга на ўвоз у Беларусь харчовых прадуктаў па вельмі шырокім спісе.

У гэтай сувязі ўзнікае пытанне аб аб'ектыўных акалічнасцях канфлікту. Усё значна больш складана, чым падаецца на першы погляд. Супраць падвышэння якасці малака дзейнічае столькі аб'ектыўных і суб'ектыўных фактараў, што праблема становіцца невырашальнай. Прыкладам, як і на кожны іншы тавар, на малако існуе адпаведны дзяржаўны стандарт. У нашым выпадку — ён вызначае патрабаванні да малака пры закупках, згодна з якімі малако падзяляецца на гатункі: «экстра», «вышэйшы», «першы» і «другі».

У малацэ гатунку «экстра» агульнае ўтрыманне мікраарганізмаў і саматычных клетак (лейкацыты, эрытрацыты, клеткі эпітэлію малочнай залозы) знаходзіцца на ўзроўні еўрапейскіх патрабаванняў. Але такога малака гаспадаркі атрымоўваюць няшмат. Па адных дадзеных, напаўпрызнаных афіцыйна, не болей за 5%. Чаму?

Якасць малака залежыць ад санітарнай культуры яго вытворчасці, стану здароўя жывёл. У асноўным гэта звязана з наяўнасцю запаленняў малочнай залозы, палавых органаў, канечнасцяў і г. д. Калі пагартаць спецыяльныя часопісы і абагульніць звесткі, якія там утрымліваюцца, то можна вызначыць, што да 50% дойнага статка хварэе і патрабуе курсавога лекавання. Такіх кароў трэба даіць асобна, каб выключыць магчымасць змешвання малака.

Адмыслоўцы лічаць, што да 1/3 штодзённага ўдою не прыдатна для рэалізацыі, але калі яго выключыць, то «здуюцца» паказчыкі прадукцыйнасці і валавой вытворчасці. А гэта заробкі, фінансы, бюджэты і гучныя словы з боку ўлады. Хто ж на гэта пойдзе, каму дазволяць такое? Ніхто, нікому і ніколі.

## 18 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**06.25** Камедыя «За запалкамі» (СССР-Фінляндыя).
**08.00** Існасць.
**08.25** Ранішняя хваля.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**10.05** Медычныя таямніцы.
**10.45** Культурныя людзі.
**11.20** Відэафільм АТН «Рэчыцкі край. Сустрэчы і спатканні» цыклу «Зямля беларуская».
**11.35** Мультсерыял «Сямейка піратаў». 2-я серыя.
**12.10** Камедыйны серыял «Сваты-4» (Украіна). 3-я і 4-я серыі.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.30** Сацыяльная драма «Каліна чырвоная» (СССР).
**17.30** Каробка перадач.
**18.05** Суперлато.
**18.55** Музычная камедыя «Школа рока» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Прыгодніцкі баявік «Місія невыканальная» (ЗША).

### Беларусь 2

**07.10** Размова са святаром.
**07.20** Прыступкі Веры.
**07.35** Таямніца душы.
**08.05** Кожны мае права быць розным.
**08.30** Камедыя «Джэнтльмены поспеху» (СССР).
**10.10** Тэлебарометр.
**10.15** Гаспадар.
**10.40** Школа рамонту.
**11.45** Вышэй за дах.
**12.20** Біятлон. Кубак свету. Гонка з агульнага старту. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**13.15** Шоў «Інтуіцыя».
**14.35** Біятлон. Кубак свету. Гонка з агульнага старту. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.35** Бухта капітанаў.
**16.20** Кінаспробы.
**16.55** Гандбол. Кубак ЕГФ. 1/4 фіналу. Прамая трансляцыя.
**18.30** Меладрама «Жорсткі раманс» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.15** Спорт-кадр.
**23.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга.
**00.50** Шоў «Інтуіцыя».

### Мир

**04.25** «Таямніцы манежу».
**05.00** Д/ф «Галіна Шурэпава - «Чалавек - амфібія».
**05.50** «Смачны свет».
**06.20, 04.00** М/ф «Прадавец паветра».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40** Т/с «Чэрчыль».
**13.30** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Апошні бронецягнік».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** «Паўночнікі».
**22.30** М/ф «Маленькая Вера».
**01.10** М/ф «Сусед».

### Discovery Channel

**08.00** Пятая перадача.
**08.25** З чаго гэта зроблена?
**08.50** Як гэта ўладкавана?
**11.05** Вокамгненныя катастрофы.
**12.00** Дзёрзкія праекты.
**12.55** Лесапавал на балотах.
**14.45** Смяротны ўлоў.
**16.35** Румз матораў на Motor City.
**19.20** Бяспека межаў.
**21.10** Адзін на адзін з прыродай.
**00.50** Я не павінен быў выжыць!
**01.45** Страчаны рай.
**02.40** Бяспека межаў.
**06.05** Я не павінен быў выжыць!

### Eurosport

**10.30** Горныя лыжы, Кубак свету. Мужчыны. Слалам-гігант. Шладмінг. Спроба 2.
**11.00** Горныя лыжы, Кубак свету. Мужчыны. Слалам. Шладмінг. Спроба 1.
**12.00, 02.15** Скачкі на лыжах з трампліна. Кубак свету. HS 214.
**13.45, 01.00** Біятлон. Кубак свету. Мужчыны. Мас-старт. Ханты-Мансійск.
**14.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Слалам-гігант. Шладмінг. Спроба 2.
**15.30** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Мужчыны. 15 км вольным стылем. Фалун.
**16.30, 01.30** Біятлон. Кубак свету. Жанчыны. Мас-старт. Ханты-Мансійск.
**17.15** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. 10 км вольным стылем. Фалун.
**18.00** Конны спорт. Saut Hermes. Парыж.
**19.30** Тэніс. Турын WTA. Індыян-Уэлс. 1/2 фіналу.
**21.00** Тэніс. Турын WTA. Індыян-Уэлс. Фінал.
**22.45** Снукер. Турнір PTC. Фінал.
**02.00, 04.15** Мотаспартыўны часопіс.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 16 серыя.
**08.30** Калыханка для самых маленькіх.
**09.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.15** Два на два (тэледыскусія).
**09.40** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**09.45** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).



**10.15** Сальда (эканамічная праграма).
**10.30** «Прадаецца!», дак. фільм, 2008 г., Балгарыя.
**12.00** «Андрэй Такінданг: «...апрануўшы белую кашулю...», рэпартаж.
**12.15** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**12.35** Калыханка для самых маленькіх «Станіслаў Багданкевіч».
**13.05** «Тэра постсаветыка. Бяздомныя дзеці ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**13.30** «Піянеры зменаў. ЗША», дак. фільм, 2009 г., Францыя: ч. 3.
**14.25** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 7 серыя.
**14.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**14.50** «Амалья», драма, 2008 г., Партугалія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял: 43 серыя.
**18.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.25** Два на два (тэледыскусія).
**18.50** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 13 серыя.
**19.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.35** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 7 серыя.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.10** Фільматэка майстроў: «Дабранач», маст. фільм, 2007 г., ЗША.
**23.40** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**23.50** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

### Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)
Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |

Плательщик
Пеня
Кассир Всего

ПАРТЫІ

# ЗНАК МАРГІНАЛЬНАСЦІ І НЕНАРМАЛЬНАСЦІ

Алег НОВІКАЎ

**Папулярная сярод гісторыкаў формула пра тое, што эканамічны крызіс стварае глебу для прыходу ва ўладу правых радыкалаў, спрацавала ў Грэцыі.**

У разгар крызісу 11 лістапада 2011 года ў Грэцыі з'явіўся пераходны шматпартыйны кабінет «нацыянальнага адзінства», які ўзначаліў эканаміст Лукас Пападэмас. Чатыры пасады ў складзе ўраду атрымалі сябры партыі Праваслаўны народны збор (LAOS). Такім чынам, упершыню за 40 гадоў у склад ураду ўвайшлі прадстаўнікі правай радыкальнай партыі.

LAOS узнік у 2000 годзе з ініцыятывы журналіста Георгія Карацаферыса, які ў свой час так характарызаваў сам сябе: «Перш за ўсё, я не яўрэй. Па-другое, я — не камуніст. Нарэшце, я — не гомасэксуаліст. Мала хто здольны казаць так пра сябе». Акрамя таго, Георгій ганарыцца сваёй працоўнай біяграфіяй, якая пачалася ў той дзень, калі яго, тады яшчэ падлетка, выкінулі са школы. Хлопчыку давялося прайсці ўсе ступені жыццёвай лесвіцы — ад трэнера-масажыста да паспяховага бізнесмена і палітыка. Біяграфія, дарэчы, з'яўляецца важная часткай піяру Карацаферыса. Традыцыйна ўся грэчаская палітычная эліта набывае адукацыю ў амерыканскіх прэстыжных універсітэтах, што дазваляе лідару LAOS выстаўляць сябе выхадцам з народу і называць апанентаў не інакш як «хлопчыкі з Бостана» (вакол Бостана знаходзяцца самыя славутыя навучальныя ўстановы ЗША).

У 2000 годзе, пасля таго, як Георгія выключылі з вядучай правацэнтрысцкай партыі «Новая дэмакратыя» за кампраметуючыя партыю заявы, ён задумаўся наконт стварэння сваёй палітычнай структуры. У выніку праз нейкі час на палітычнай мапе ўзнік той самы LAOS. Спачатку Праваслаўны народны збор атрымліваў сціплы ўраджай галасоў, аднак у 2007-м здолеў прарвацца ў парламент. У 2010 годзе, набраўшы 5,6 працэнта, партыя зрабіла дубль. А ўвосень увогуле адхапіла міністэрскія партфелі ў кабінеце Пападэмаса.

Для таго, каб зразумець прычыны ўздыму LAOS, трэба нагадаць асноўныя фішкі грэчаскай правай школы.

Грэчаскі радыкальны нацыяналізм — асноўны складнік правага руху — з'яўляецца прадуктам нацыянальна-вызвольнай барацьбы грэкаў супраць асманскага панавання. Адсюль антытурэцкія забабоны. LAOS выступае супраць уступлення Турцыі ў склад Еўрасаюза, за ліквідацыю Турэцкай Рэспублікі ў паўночнай частцы Кіпру.

У сваю чаргу, барацьба грэкаў з туркамі мела таксама не толькі характар нацыянальнага, аднак таксама рэлігійнага супрацьстаяння. Гэта садзейнічала таму, што вялікае месца ў нацыяналістычнай дактрыне надаецца рэлігійнаму чынніку, які набывае часам месіянскі падтэкст. Праект «Вялікая Ідэя» — збіранне ўсіх грэкамоўных рэгіёнаў у адну дзяржаву, які існаваў на пачатку XX стагоддзя, часта ўспрымаўся як сінонім вяртання грэкам характару імперскай нацыі праз адраджэнне Візантыйскай дзяржавы. «Візантыя 2.0», у сваю чаргу, павінна была стаць адным з полюсаў праваслаўнага свету. LAOS надае візантыйскай спадчыне вялікую ўвагу і кожны год святкуе дзень падзення Канстанцінопалю 29 мая 1453 года як дзень нацыянальнага смутку.

Безумоўна, на ідэалогію Праваслаўнага народнага збору паўплывалі антыкамунізм, характэрны для грэчаскіх правых 1920–1940-х гадоў і пазней для дыктатуры чорных палкоўнікаў. У 1930-я гады на хвалі поспехаў фашыстаў у суседняй Італіі ўзніклі мясцовыя фашысцкія партыі. Так, у 1927 годзе быў абвешчаны



Лукас Пападэмас

Нацыянальны саюз Грэцыі (EEE). У 1933 годзе EEE нават спрабаваў паўтарыць паход Мусаліні на Рым, маршыруючы на Афіны, аднак паход не атрымаўся. Захапленне італьянскім фашызмам, які выкарыстоўваў левую фразу, абумовіла сацыяльна-папулісцкі характар грэчаскіх ультраправых. Так, у цэнтры ідэалогіі LAOS закладзена такая дэмаркацыя палітычнай ідэнтыфікацыя, як стаўленне да «глабалізацыі». Яны выступаюць за «сацыяльную салідарнасць і патрыятызм».

Знаходжанне Грэцыі пад акупацыяй у час Другой сусветнай вайны ўзбагаціла лексікон мясцовых фашыстаў антысеміцкімі лозунгамі. Створаная пад пратэктаратам Рыму і Берліну Грэчаская Дзяржава праявіла сябе хіба толькі ў галіне знішчэння яўрэяў (было забіта 82 працэнта сяброў яўрэйскай грамады Грэцыі). Цікава, што ў суседняй Македоніі, якая перайшла пад кантроль балгар (саюзнікаў нацыстаў), наадварот, адбываліся чысткі супраць этнічных грэкаў.

Падчас дыктатуры чорных палкоўнікаў 1967–1974 гадоў, якая была падтрымана ўсімі радыкальнымі правымі, актыўна прасоўвалася ідэя пра тое, што эфектыўная дзяржаўная адміністрацыя можа быць толькі карпаратыўнай. Не дзіўна, што LAOS лічыць ідэальнай схемай кіравання перадачу ўсёй улады савету вайскоўцаў і царкоўнікаў. Увогуле, даволі шмат лідараў LAOS паспелі папрацаваць функцыянерамі ў часы дыктатуры.

Пасля развалу савецкага блоку да арсеналу правых Элады дадаўся экзатычны лозунг: яны рашуча выступілі супраць таго, каб былая Саюзная Югаслаўская Рэспубліка Македонія называлася Македоніяй. На іх думку, манаполія на слова «Македонія» належыць выключна грэкам, паколькі Аляксандр Македонскі быў грэкам. У 2007 годзе, калі праходзіў міжнародны кніжны кірмаш, 200 нацыяналістаў уварваліся ў павільёны ў пошуках кніг, якія распавядаюць пра «няправільную» Македонію.

Нарэшце, у апошні час вельмі моднай стала барацьба з эмігрантамі. Адпаведна апытанням, 44 працэнты маладых грэкаў звязваюць праблемы эканомікі з наплывам эмігрантаў. Гэта самы высокі паказнік ксенафобіі ва ўсёй Еўропе. Да таго ж правыя радыкалы актыўна крытыкуюць гомасэксуалізм, які, на іх думку, папулярны сярод кіруючай эліты.

Антысемітызм, недавер да дэмакратычнай мадэлі, нацыяналізм — некаторыя з пастулатаў правых набылі ў час крызісу актуальнае гучанне. Праўда, шмат у чым гэты была таксама рэакцыяй на папулярны апошнім часам стэрэатып сярод тых жа немцаў, што грэкі — нацыя паразітаў. Такая стыгматызацыя, а таксама пераход эканомікі пад кантроль «тройкі» (камісія Міжнароднага валютнага фонду, Сусветнага банку і Цэнтральнага еўрапейскага банку) у сваю чаргу, выклікала пачуццё абразы ў грэкаў.

Дастаткова ўзгадаць фрагмент паслання сінода Эладскай Праваслаўнай Царквы на мінулы Вялікдзень: «У сацыяльнай сферы здзяйсняецца скасаванне нашых асноў, прычым робіцца гэта на дзіўнай падставе: «Да гэтых мер нас прымушаюць нашы крэдыторы». Такім чынам, мы, як дзяржава, фактычна прызнаём, што знаходзімся пад акупацыяй і выконваем волю нашых новых замежных уладароў».

Калі царква прапануе шукаць выйсце ў вяртанні людзей да хрысціянскіх нормаў, то LAOS — у тым, каб расправіцца з біржавымі спекулянтамі, якія, быццам, звязаныя з яўрэйскімі коламі, партыямі мэйнстрыму, эмігрантамі, камуністамі і г.д.

Калі меркаваць па ўчынках Праваслаўнага народнага збору, такога кшталту заклікі — выключна голы папулізм. Яшчэ ўлетку партыя прапанавала праграму «30 крокаў на шляху да выхаду з крызісу», якая мае выразны сацыяльны характар — рост падаткаў на імпарт, замарожванне коштаў і г.д. З іншага боку, гэта не перашкодзіла LAOS пазней прагаласаваць за тое, каб прыняць патрабаванні «тройкі».

Такая супярэчлівая палітыка Праваслаўнага народнага збору дазваляе спадзявацца, што Грэцыі не пагражае паўтарыць гісторыю Веймарскай рэспублікі, дзе нацысты дзякуючы крызісу сталі вядучай палітычнай сілай на правым флангу. Аднак недаацэньваць сітуацыю нельга. Амерыканская газета «The Epoch Times» цытуе аднаго з грэчаскіх палітолагаў: «Прыход у склад ураду новых сілаў сведчыць пра тое, што закончылася цэлая палітычная эпоха. Гэты крызіс разбурыў усю старую палітычную культуру, у тым ліку ўстаноўку пра тое, што галасаваць за ультраправых або агучваць іхнія патрабаванні — знак маргінальнасці і ненармальнасці».

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Што азначае гэта супрацьстаянне? Для Аляксандра Лукашэнкі — нічога добрага, паколькі ўзмацняецца палітычная ізаляцыя яго рэжыму. А гэта падрывае легітымнасць беларускага прэзідэнта ў вачах міжнароднай супольнасці і ўласных грамадзян. Акрамя таго, новы канфлікт з Еўрасаюзам сведчыць пра крызіс палітыкі Лукашэнкі, які доўгія гады рабіў стаўку на супрацьстаянне Захаду і Расіі: ускладненне адносін Мінску з адным актарам адначасова азначала збліжэнне з іншым. Але надыходзіць час, калі ўпадабаная тактыка пачынае даваць збоі. Што мы і назіраем сёння.

**«Дзеркало тижня» (Украіна)**

Лукашэнка верыць, што і надалей будзе «лавіраваць паміж Захадам і Расіяй, але Брусэль, галоўным чынам дзякуючы Польшчы, спрабуе ўзмацніць санкцыі, і калі яны пачынаюць тычыцца бліжэйшага атачэння беларускага кіраўніка, не закранаючы звычайных грамадзянаў, гэта «баліць». Незалежна ад таго, як скончыцца гэтая партыя ў покер, Еўрасаюз дзякуючы апошнім захадам Лукашэнкі, паказаў выключнае адзінства і мэтанакіраванасць. Гэта вельмі многа, бо ў часы крызісу еўра, здольнасць ЕС рабіць моцныя ды салідарныя крокі ў замежнай палітыцы значна зменшылася.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Зараз Лукашэнка рызыкуе атрымаць поўны разрыў сувязяў з Еўропай замест параўнальна мяккіх забаронаў на паездкі і замарожвання актываў яго прыслужнікаў. Шматлікія палітолагі ў Беларусі і за мяжой ламаюць сабе галаву і пытаюць, што прымусіла Лукашэнку зрабіць гэты крок? Некаторыя спасылаюцца на яго ірацыянальнасць, якую ён часта выкарыстоўваў раней, каб заблытаць апанентаў і атрымаць перавагу над імі. Іншыя бачаць у гэтым свядомы манеўр, каб цяпер даць адпор Еўропе з мэтай дамагчыся саступак пазней. Некаторыя лічаць гэта дэманстрацыяй адданасці Уладзіміру Пуціну. У любым выпадку, Еўропа павінна скарыстацца магчымасцю, якую даў ёй Лукашэнка, і дабівацца перамен.

**«New-York Times» (ЗША)**

«Адзін з чыннікаў выкліку, які Лукашэнка кінуў ЕС, — выратаванне беларускай эканомікі ад краху ўлетку пры дапамозе суседняй Расіі. Гэта дало магчымасць Мінску больш рэзка рэагаваць на еўрапейскія санкцыі», — сказала Ганна Марыя Дынер, аналітык Польскага інстытута міжнародных спраў. Але рэакцыя Лукашэнкі таксама адлюстроўвае занепакоенасць тым, што руская падтрымка не будзе доўжыцца вечна. Нягледзячы на тое, што ўжо ўведзеныя санкцыі ЕС даволі абмежаваны, яны перакрэсліваюць намеры Мінску па пошуку фінансаў для падтрымання неэфектыўнай беларускай эканомікі.

**«Financial Times» (Вялікабрытанія)**

Санкцыі, уведзеныя супраць рэжыму Лукашэнкі, носяць універсальны характар. І калі пераможца цяперашніх прэзідэнцкіх выбараў у Расіі захоча скарыстацца каштоўным бацькавым досведам, то ён павінен загадзя задумацца пра будучыя страты. Масавыя арышты, прысуды ці, крый Божа, сакральныя ахвяры — усё гэта ўжо было ў Мінску і паступова прывяло да татальнай ізаляцыі Беларусі. Еўропа павольна запрагае і павольна едзе, але запасы трывання не бязмежныя нават там, дзе наладжана ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва з «Газпрамам». Разважаючы пра тое, што чакае Расію пасля выбараў, еўрапейскія палітыкі, верагодна, дэманструюць сваю згуртаванасць, маючы на ўвазе не толькі Беларусь.

**«Грани» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. БУДЗЕ РУСКАЯ «TEA PARTY»

Хуткае абнаўленне партыйнага заканадаўства ў Расіі, калі для рэгістрацыі партыі будзе патрэбна ўсяго 500 подпісаў, выклікала ажыўленне не толькі ў нефармальных партыйных нішах. У чаканні лібералізацыі заканадаўства з'яўляюцца партыі з рэлігійным ухілам. Так, з'явілася інфармацыя пра тое, што «прадстаўнікамі монатэістычных рэлігій (хрысціянамі, мусульманамі і іудзеямі) у Маскве быў створаны Арганізацыйны камітэт палітычнай партыі «Дзесяці запаветаў». Мэтай партыі абвешчана «кансалідацыя ўсіх адказных рэлігійных, нацыянальных, грамадска-палітычных сіл і грамадзян Расійскай Федэрацыі для забеспячэння трывалага міру і грамадскай згоды». Старшынёй аргкамітэта партыі абраны Сяргей Мезенцаў — прафесар Духоўнай акадэміі Садружнасці евангельскіх хрысціян Расіі. Ужо маецца рашэнне правесці ўстаноўчы з'езд новай партыі ў студзені-лютым 2013 года, калі ў поўным аб'ёме пачне працаваць прапанаваны Дзмітрыем Мядзведзевым абноўлены закон пра партыі. Аднак партыю «Дзесяці запаветаў» чакае моцная канкурэнцыя. Адначасова з'явіліся ініцыятывы па стварэнні партыі «Святая Русь», Праваслаўнай сацыялістычнай партыі, Партыі народнай большасці. Зараз у свеце назіраецца інтарэс ды рэлігійнага фундаменталізму. Можна згадаць хаця б амерыканскую кансерватыўную групоўку «Tea Party».

**Паводле расійская прэсы**

### АРГЕНЦІНА. «PINK FLOYD» ПРАПАНУЕ АДДАЦЬ ФАЛЬКЛЕНДЫ

Роджэр Вотэрс (Roger Waters), былы лідар аднаго з самых вядомых у гісторыі музыкі брытанскай гуртоў «Pink Floyd», заклікаў да таго, каб вярнуць Фальклендскія (Мальвінская) астравы Аргенціне. Па яго словах, яму сумна, што Брытанія чапляецца за каланіяльнае мінулае. Вотэрс стаў другой зоркай шоў-бізнэсу, якая выступіла ў абарону пазіцыі Аргенціны ў гэтым канфлікце. Раней за тое, каб вывесці брытанскія войскі і адміністрацыю з астравоў, выказаўся вядомы амерыканскі актор Шон Пэн. Словы Вотэрса выклалі рэзананс у брытанскай прэсе. У 1980-я гады «Pink Floyd» запісаў песню з асуджэннем атакі брытанскай падлодкі на аргенцінскі крэйсер «Генерал Бельграна», у выніку чаго загінулі амаль 400 чалавек. Непатрыятычная выхадка Вотэрса па часу супала з пастановай аргенцінскага ўраду. Надоечы міністр эканомікі выклікаў да сябе 20 самых буйных імпарцёраў брытанскіх тавараў і патрабаваў згарнуць гандаль з англічанамі ў імя «нацыянальнай інтэграцыі».

**Паводле брытанскай прэсы**

### МАЛДАВІЯ. У ШКОЛАХ ВЫВУЧАЮЦЬ РУСКІ МАТ

У Кішынёве моўны скандал. Нагодай да яго паслужыў выдадзены ў малдаўскай сталіцы на грошы пасольства Расіі «Універсальны ілюстраваны слоўнік рускай мовы». Яго надрукавалі спецыяльна для таго, каб павысіць узровень выкладання рускай мовы ў школах рэспублікі, якія атрымалі гэты слоўнік бясплатна. Калі выйшлі першыя тры тамы, аказалася, што ў слоўніку дзецям тлумачаць словы, якія належаць да ненарматыўнай лексікі. «Пакуль выйшаў том на літару «б», і я з жахам чакаю, калі выйдуць на «п» ці «х», — так адрэагаваў на спробу пашырэння рускай моўнай прасторы адзін з лідараў малдаўскай рускамоўнай абшчыны. У пасольстве кажуць, што цалкам даверыліся аўтарытэту акадэмікаў, якія складалі слоўнік. Самае цікавае, што навіна пра слоўнік з ненарматыўнай лексікай выклікала вялікі попыт на кнігу. У кніжных крамах за ёй стаяць вялікія чэргі.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### УКРАІНА. ЗАБАРАНІЦЬ КРЫМСКІХ ПРЫГАЖУНЬ!



Нацыяналістычная грамада Украіна выказвае трывогу з нагоды з'яўлення на міжнародных конкурсах прыгажосці канкурсантак, якія прадстаўляюць Крым у якасці асобнай дзяржавы. Скандал пачаўся пасля апошняга конкурсу «Міс Зямля 2011». На ім была прадстаўніца Крымскай аўтаномнай рэспублікі Ніна Астраханцава, якая падчас выступу ні разу не згадала, што Крым — гэта частка Украіны. «Пры такіх умовах пашырэнне самастойнай міжнароднай дзейнасці Крыму ва ўсіх сферах, у тым ліку і ў конкурсах прыгажосці сусветнага і рэгіянальнага ўзроўню, у статусе асобнага ад Украіны суб'екта толькі ўзмацняе цэнтрабежныя настроі ў вызначаных груп насельніцтва паўвострава», — піша адзін з нацыяналістычных сайтаў. На думку нацыяналістаў, такі прыём выкарыстоўваюць не толькі крымскія сепаратысты. Побач з прыгажунямі з Крыму на такога кшталту конкурсах можна пабачыць прыгажунь з Абхазіі, Прыднястроўя і іншых самаабвешчаных дзяржаў. Нацыяналісты заклікаюць дзяржаўныя структуры Украіны ўзмацніць кантроль за дзейнасцю прадстаўнікоў АР Крым на міжнароднай арэне. Пры ўсёй абсурднасці праблемы тэма выкарыстання конкурсаў прыгажосці ў палітычных мэтах сапраўды сур'ёзная і не новая. Так, у 2003 годзе Пекін дамогся, каб удзельніца конкурсу «Міс Сусвет» замяніла стужку з надпісам «Тайвань» на «Кітайскі Тайбэй».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

З НАГОДЫ

# ДРУГАЯ ЛЮТАЎСКАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ?

**Алег НОВІКАЎ**

**Грамадская мабілізацыя ў Расіі падчас апошніх выбараў пахавала дыскусію наконт магчымасці аднаўлення ў краіне манархіі на чале з царом Уладзімірам Пуціным.**



Як вядома, у Расіі ніколі не пераводзіліся аматары рэстаўрацыі манархічнага ладу. Праўда, як правіла, іх рух не выходзіў за рамкі свецкіх настальгічных раутаў, арганізаваных прадстаўнікамі раманаўскай дынастыі.

Адначасова ў нулявыя гады ўзнікла новая, больш практычная плынь манархістаў. Яны бачылі галоўным кандыдатам на расійскі трон не кагосьці з дому Раманавых, а выхадца з клану Піцерскіх. Адзін з трыбунаў новага напрамку, вядомы публіцыст Аляксандр Дугін так аргументаваў свой выбар: «У перыяд кіравання Пуціна адбыліся вялікія рэчы: была адноўлена тэрытарыяльная цэласнасць дзяржавы і, адпаведна, папярэджаны развал Расіі. Кожны рускі манарх выконваў ці павінен быў выконваць гэту функцыю. Так, сёння Расія — не сакральная манархія, няма абраду памазання, няма дынастычнай пераемнасці, што складала аснову традыцыйнай манархіі. Аднак тыпалогія, манархічная структура ў нашым грамадстве цалкам захавалася, таму мы і гаворым пра пераемнасць у дынастычна-ідэалагічным сэнсе».

Калі ў мінулую восень на з'ездзе «Адзінай Расіі» Мядзведзеў сказаў фатальную фразу пра тое, што ўжо дамовіўся з Пуціным наконт вяртання таго ў Крэмль, манархісцкія прапуцінскія колы Расіі адразу гальванізаваліся.

«Улада не абіраецца, а перадаецца. Гэты прынцып спрацоўвае ў сучаснай Расіі ўжо трэці раз: Ельцын перадаў уладу Пуціну, Пуцін — Мядзведзеву, Мядзведзеў — Пуціну. І мабыць, не апошні раз. Тое, што паўтараецца ў прыродзе тры разы, у навуцы завецца заканамернасцю. Відавочна, што мы сталі сведкамі фармавання новай палітычнай сістэмы, якая існуе пад назвай дэмакратыі, але насамрэч такой не з'яўляецца. Не трэба ашукваць сябе. Трэба называць рэчы сваімі імёнамі. І сказаць, што ў нас фактычна склалася сітуацыя палітычнага атрымання ў спадчыну ўлады», — пісала газета «Дзяржаўная Русь».

Манархісты не заклікалі да тэрміновай змены дзяржаўнага ладу. Яны проста спрабавалі навязаць грамадству думку пра тое, што элітны прынцып улады лепш за ўсё адпавядае ментальнасці народа і супраць гэтай ісціны, як гаворыцца, не папрэш. Так пісаў Яўген Грынеў, прэзідэнт Фонду развіцця Расі: «Пры нашай суперпрэзідэнцкай рэспубліцы, пры велічэзных паўнамоцтвах, якімі па Канстытуцыі валодае прэзідэнт, ды да таго ж пры нашай нізкай палітычнай культуры, практычна немагчыма легітымнае адхіленне ад улады кіруючай эліты. Але праблема яшчэ і ў тым, што ў нас кіруючая эліта не толькі стварае кіруючую партыю, але і сама вызначае, хто з яе складу стане наступным прэзідэнтам. Калі наша палітычная сістэма з'явілася ў канцы 1993 года, ее называлі «выбарнай манархіяй». Зараз яе можна назваць «карпаратыўнай манархіяй». Прэзідэнтам у нас зараз становіцца той, хто больш за ўсё спадабаўся папярэдняму кіраўніку дзяржавы».

На гэтай базе, на думку манархістаў, можна было развіваць канцэпцыю пра вяртанне як мінімум да мадэлі канстытуцыйнай манархіі: «Існуе непрымірымая супярэчнасць у тым, як павінна развівацца краіна, — і тым, чым яна з'яўляецца ў гістарычнай перспектыве. Расія — гістарычна манархія. І была ёю пры Рурыках, і пры Раманавых, і пры савецкай уладзе ёю была — з тым адрозненнем, што ўлада не перадавалася па спадчыне. І вось цяпер Пуцін выдатна разумее, што гэту самую манархію патрэбна было б аднавіць. Таму што на чале вялікай краіны павінен стаяць вялікі і моцны лідар. Заўсёды. Не чатыры гады, не восем, не дванаццаць. Вечна. Народу — у самым шырокім сэнсе гэтага слова — не патрэбныя змены. Народу патрэбны Цар-бацюхна, інакш ён, народ, папросту паслабіцца, разбуяніцца і наогул нічога рабіць не будзе».

Варта адзначыць, што ў цары Пуціна пачалі сватаць даўно. У 2010 годзе, у Дзень абароны дзяцей, больш сотні маленькіх жыхароў Пецярбурга атрымалі незвычайны падарунак — апроч кніг, прысвечаных гісторыі Расіі, уручылі тоненькую брашуру з малітвай за прэзідэнта краіны. Тэкст так званай «малітвы» гучаў так: «Пане Божа, Вялікі Цару, дашлі, Пане, Арханёла Твайго Міхаіла на дапамогу рабам Тваім Дзмітрыю і Уладзіміру, абарані іх ад ворагаў бачных і нябачных...» Тэкст у 2008 годзе быў скарэктаваны пад дуумвірат, а да гэтага існаваў у выглядзе «малітвы за Уладзіміра Пуціна».

Не прайшлі знаўцы манархіі і міма сентэнцыі пра тое, што Пуціна хацелі хрысціць як Міхаіла. «Калі мяне прынеслі на хрышчэнне, то святар, які хрысціў, сказаў, што сёння дзень арханёла Міхаіла. Але мама сказала, што мы ўжо зарэгістравалі дзіця ў гонар бацькі Уладзімірам». Пікантнасць сітуацыі ў тым, што ў шматлікіх манархісцкіх кніжках папулярнае прадказанне, што пасля «стагоддзя бязбожнасці» ў Расіі будзе адноўлена манархія, і што цара будуць зваць Міхаіл.

Але легітымісты аспрэчылі нават факт прыналежнасці Пуціна да хрысціянства. Важкім аргументам, які пацвярджаець, што Пуцін насамрэч не з'яўляецца хрышчоным, на іх думку, служыць і яго радавод. «У які бок ні паглядзіш, але выходзіць, што ўсе сваякі Уладзіміра Пуціна — гэта перакананыя камуністы, чэкісты і рэвалюцыянеры. Наўрад ці хтосьці з іх стаў бы хрысціць хлопчыка», — пісаў адзін з крытыкаў ідэі цара Пуціна. Больш таго, аказваецца, што адзін з далёкіх родзічаў Пуціна быў сябрам Бунду — сацыял-дэмакратычнай яўрэйскай арганізацыі.

Сам Пуцін, каментуючы ўлетку сітуацыю ў Лівіі, заўважыў: «Кадафі вынайшаў новую манархію, гэтак жа, як калісьці Напалеон, які пасля таго, як прыйшоў на хвалі рэвалюцыі да ўлады, абвясціў сябе імператарам. Калі «манархію» змог стварыць нейкі лівійскі палкоўнік, чаму нешта падобнае нельга зрабіць у іншым месцы?»

Год таму такія выразы публіка яшчэ моўчкі праглынала. Але зараз на хвалі росту грамадзянскай самасвядомасці стаўленне змянілася. Як гаворыцца ў папулярнай апазіцыйнай песні: «Ведь ты такой же, как мы».

У гэтым плане гістарычны кадр Пуціна, які плача на Манежцы, мае іншы падтэкст. «Выступ Уладзіміра Пуціна на Манежнай плошчы 4 сакавіка паказаў, якой неверагоднай псіхічнай напругі каштавала яму перадвыбарная кампанія. Гэта па-чалавечы зразумела. Для харызматыка, які спазнаў усенародную любоў, падзенне папулярнасці — і такое неспадзяванае, суб'ектыўна несправядлівае — гэта амаль асабістая трагедыя», — піша «Независимая газета».

Крах харызмы Пуціна — вынік апошніх выбараў — пахаваў манархісцкую дыскусію. Адзін з манархісцкіх сайтаў ужо рве валасы на галаве: «У яго быў момант, калі ён мог проста абвясціць сябе — і ўсё. Але ён гэтага не зрабіў, выраша ўшы (напэўна), што ў XXI стагоддзі так адразу не атрымаецца. Пуцін верыў, што яму атрымаецца «прыручыць» дэмакратыю — хоць трэба было яе яшчэ на маладых порах скруціць ёй галаву. Таму што інакш яна задушыць цябе. Што і маем сёння».

А сёння мы маем выбар народу на карысць рэспубліканскай парадыгмы, у рамках якой нават фанатычныя пуцінцы бачаць будучыню і перспектыву для краіны.

ГЕАПАЛІТЫКА

# ЦІ ПАТРЭБНА НАМ СІНАФОБІЯ?

Алег НОВІКАЎ



**Беларуская палітычная дыскусія блізкая да таго, каб стаўленне да кітайцаў стала часткай грамадскіх настрояў. Як сведчыць вопыт іншых краін, лепш па магчымасці гэтага пазбегнуць.**

Сінафобія — так на мове палітолагаў і гісторыкаў называюцца ксенафобскія забабоны супраць кітайцаў — у Беларусі стала праяўляцца як рэакцыя на супярэчлівы праект кітайскага індустрыяльнага парку ў Смалявічах і ідэю будаўніцтва гатэлю «Пекін» у сталічным парку імя 40-годдзя Кастрычніка.

Нават павярхоўнага маніторынгу байнэту дастаткова, каб зразумець, што інвестары і ўлады не знайшлі агульнай мовы з тубыльцамі. Больш таго, эмоцыя апошніх часам выходзяць за мяжу прынятай у цывілізаваных краінах палітычнай этыкі.

Улады супрацьстаўляюць гэтай тэндэнцыі ў грамадскай думкі дастаткова прымітыўныя і фармальныя меры кшталту заспакойлівых заяў чыноўнікаў. Тым часам Беларусь можа трапіць у шэраг краін, дзе сінафобія прысутнічае ў паўсядзённай палітычнай павестцы дня.

Да катэгорыі падобных краін перш за ўсё належаць тыя, што гістарычна ўваходзілі ў зону ўплыву Паднябеснай і дзе, адпаведна, сфармаваліся сталыя негатыўныя адносіны да метраполіі. Гэта — В’етнам, Манголія, Карэя, Інданезія ды іншыя.

**Сінафобія звязаная з дамінаваннем эмігрантаў з Кітаю ў некаторых сферах эканомікі. У Інданезіі ўсяго 3 працэнтам этнічных кітайцаў належыць 70 працэнтаў дробнага бізнэсу**

Напрыклад, В’етнам быў каloніяй Пекіну амаль тысячу гадоў. Адсюль крыніцы той самай сінафобіі. Адзіным промнем у царстве цемры стаў час канфлікту В’етанму і ЗША, калі Кітай падтрымліваў рэжым Хо Шы Міна. Аднак хутка ўсё стала на свае месцы. Прычына таму — памежная кітайска-в’етнамская вайна 1978–1979 гадоў. Яе непасрэдным следствам стала дэпартацыя з В’етнаму прыкладна 450 тысяч этнічных кітайцаў. Адсутнасць у краіне буйной кітайскай дыяспары не паўплывала на адносіны да паўночнага суседа. Апошні раз антыкітайскія пратэсты выбухнулі ў В’етнаме ў мінулым годзе, калі марскі патруль КНР выпадкова сутыкнуўся з караблём з в’етнамскімі акіянографамі.

З той жа оперы сітуацыя ў Карэі. Прычым нягледзячы на тое, што большасць кітайскіх каланістаў выкінулі адсюль японцы пасля акупацыі паўвостраву яшчэ на пачатку XX стагоддзя. Аднак фобія на адрас кітайцаў захавалася з-за таго, што ў мінулым Карэя шмат разоў была ахвярай кітайскіх вайсковых экспедыцый. Пра ўзровень напружанасці сведчыць, здавалася, вельмі смешная прычына апошняй канфрантацыі ўлетку. Карэйцы выйшлі на вуліцы Сеула, пратэстуючы супраць тэзісаў некаторых кітайскіх гісторыкаў. Гісторыкі мелі намер давесці, што адно з сярэднявечных княстваў на мяжы Маньчжурыі і Карэі было не карэйскім, а кітайскім.

У шэрагу краін сінафобія звязаная з дамінаваннем эмігрантаў з Кітаю ў некаторых сферах эканомікі. Так, у Інданезіі ўсяго тром працэнтам этнічных кітайцаў, калі верыць рэсурсу Вікіпедыя, належыць 70 працэнтаў сегменту дробнага бізнэсу, што час ад часу выклікае незадавальненне тубыльцаў. Самы буйны кітайскі пагром меў месца ў 1965–1966 гадах. У выніку з двух бакоў было забіта паўмільёна чалавек (!). У тэксце канстытуцыі Інданезіі да 1998 года прысутнічаў параграф аб абмежаванні правоў выхадцаў з Кітаю.

Былі абмежаваныя правы кітайскіх эмігрантаў у англасаксонскіх краінах. Аднак прычына тут была іншая. Кітайскія «кулі» пагаджаліся на якую заўгодна працу, дэмпінгуючы на працоўным рынку. Гэта выклікала бунт сярод іншых эмігрантаў, перш за ўсё сярод італьянскіх і ірландскіх. Патрабаванне абмежаваць грамадзянскія правы прыезджых з Азіі патрабавалі таксама прафсаюзы.

Спрыяла распаўсюду сінафобіі і нацыянальна-вызвольнае паўстанне ў Кітаі, вядомае як паўстанне баксёраў. Яго пралогам стала разня хрысціянскіх місіянераў, што выклікала шок і гнеў у асяроддзі еўрапейскіх абывацеляў. Менавіта тады з’явіўся тэрмін «жоўтая пагроза». Наступную антыкітайскую істэрыю выклікала таямнічае забойства ў Нью-Ёрку 19-гадовай дзяўчыны Ельзы Сігель у 1909 годзе. Дасюль не вядома, хто яе забіў, аднак па справе праходзілі пару кітайцаў, якія быццам былі яе каханкамі, што спрыяла росту ў ЗША насцярожанасці на адрас любога, хто прыехаў з Азіі.

Яшчэ ў 1855 годзе антыкітайскае заканадаўства было прынята ў адной з калоній Аўстраліі. У 1920-я гады Кангрэс ЗША ўхваліў Акт аб зоне аселасці, які акрэсліваў зону, дзе маглі сяліцца выхадцы з Кітаю. У 1923 годзе быў прыняты спецыяльны закон пра квоты для кітайскіх эмігрантаў. Канадскія кітайцы, каб удзельнічаць у выбарах, доўгі час мусілі плаціць спецыяльны падатак. Толькі ў 1947 годзе яны атрымалі права галасаваць без грошай. Права абірацца ім надалі толькі ў 1967-м. Нарэшце, у 2006 годзе прэм’ер Канады папрасіў прабачэнне ў канадцаў кітайскага паходжання і нават дабіўся, каб усім выплацілі па 20 тысяч долараў у якасці кампенсацыі за былы прававы здзек.

У 1950–1970-я гады кітайцаў разглядалі як шпіёнаў Мао, а зараз, у часы глабалізацыі, — як пагрозу мясцовай індустрыі. Так, рэспубліканцы ў ЗША выступаюць супраць агульнай зоны вольнага гандлю ЗША і КНР.

Аднак для беларусаў, відавочна, больш зразумелая расійская паленіка наконт кітайскай экспансіі.

У апошняе дзесяцігоддзе жыхары Сібіры і Далёкага Усходу сутыкнуліся з новай для сябе праблемай. У выніку бурнага рынкавага развіцця пачалося масавае пранікненне кітайскіх мігрантаў у РФ, іх актыўная эканамічная дзейнасць, паступовае фармаванне сталых кітайскіх абшчын у памежных расійскіх рэгіёнах.

Па розных крыніцах, колькасць кітайцаў у Расіі ацэньваецца ад некалькіх соцень тысяч да двух мільёнаў чалавек. Гэта само па сабе выклікала шок у грамадстве. «Перад намі, — як піша адзін з сайтаў, — велізарны дэмаграфічны перакос, калі над некалькімі мільёнамі расіянаў на Далёкім Усходзе «навісаюць» сотні мільёнаў жыхароў прымежных кітайскіх правінцый». Гэтая праблема ўсё часцей выкарыстоўваецца ў барацьбе за ўладу як на федэральным, так і рэгіянальным узроўнях.

Яшчэ ў 1995 годзе атаманская рада Саюзу казакоў азіяцкай часткі Расіі заявіла «пра неабходнасць рашуча спыніць засяленне Сібіры і Далёкага Усходу кітайцамі і карэйцамі». Той жа Уладзімір Жырыноўскі працягнуў тэму. Ён неаднаразова казаў, што кітайцы ў Расіі маюць толькі адно права — «працаваць па шаснаццаць гадзін у суткі, без выходных, без шпацыраў па горадзе. І жыць у казармах».

Каб не паўтарыць у Беларусі такога кшталту палітычнае цемрашальства, па сутнасці трэба толькі адно — мясцовыя грамады павінны быць самі зацікаўленыя ў інвестыцыях і праектах з Кітаю. Для гэтага, у сваю чаргу, патрэбна адмова ад дыктату цэнтральнага ўраду і рэальнае мясцовае самакіраванне. Думаецца, ніхто з адказных мясцовых дэпутатаў не будзе адмаўляць значэння культурных і эканамічных кантактаў з Кітаем.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### АЛМАЗБЕК АТАМБАЕЎ



Прэзідэнт Кіргізіі вырашыў згуртаваць кіргізскую нацыю з дапамогай легенды пра багатыра Манаса, які аб’яднаў усіх кіргізаў. Манас — герой адпаведнага кіргізскага эпасу. Першая інфармацыя пра Манаса з’явілася ў XVI стагоддзі. Па словах кіргізскага прэзідэнта, «Манас — не міф. Рэальны Манас аб’яднаў усіх». Падчас візіту ў Маскву Атамбаеў не толькі адкрыў помнік Манасу ў сталіцы Расіі, аднак дабіўся ад уладаў Крамля таго, што такія помні адкрыць на Алтаі, дзе адпаведна міфу Манас нарадзіўся. І гэта яшчэ не канец. У школах Кіргізіі з наступнага года з’явіцца новы курс — «манасазнаўства». Таксама ў гэтым годзе будзе адзначацца 1170 гадоў заснавання дзяржавы Манаса — каганата кіргізаў, які, быццам, уключаў землі ад Уралу да Каспія. Цяжка сказаць, наколькі гэта дапаможа кансалідацыі кіргізаў. Справа ў тым, што ў краіне ўжо ёсць універсітэт «Манас», аэрапорт «Манас» і нават вышэйшы дзяржаўны ордэн, які называецца «Манас».

### ІСМАІЛ ХАНІЯ



Прэм’ер-міністр Сектара Газы і адзін з лідараў ісламскага радыкальнага руху ХАМАС нечакана для ўсіх здрадзіў старому спонсару — сірыйскаму ўраду, заявіўшы пра тое, што падтрымлівае паўстанне супраць рэжыму Асада. «Я вітаю гераічны народ Сірыі, які выяўляе волю да рэформаў і свабоды», — заявіў Ханія падчас візіту ў Каір. Адначасова стала вядома, што шэф палітычнага бюро ХАМАС і ўвесь апарат партыі з’ехалі з Дамаску. За дэмаршам ХАМАС, па словах яго актывістаў, стаіць нежаданне падтрымліваць рэпрэсіі Асада супраць грамадзян Сірыі, паўмільёна з якіх — нашчадкі бежанцаў з Палесціны. Аднак, хутчэй за ўсё, такі крок ХАМАС звязаны з тым, што гэта партыя сунітаў. Сірыйскія суніты — касцяк апазіцыі, якая выступае супраць секты алавітаў, да якіх належыць клан прэзідэнта. Магчыма, таксама віраж ХАМАС звязаны з тым, што на гарызонце з’явіўся новы спонсар. Гаворка пра егіпецкую партыю «Браты-мусульмане», якая па выніках апошніх выбараў будзе мець адносную большасць у мясцовым парламенце. Менавіта ў Каір перабраўся штаб арганізацыі.

### ЗОРАН ДЖЫНДЖЫЧ

Пра сербскага палітыка, мэра Бялграда ў 1997 годзе, прэм’ер-міністра Сербіі ў 2001–2003 гадах, якога сербскія нацыяналісты забілі, баючыся выдачы Бялградам ваенных злачынцаў Гаагскаму трыбуналу, сёння ўзгадвае ўся Сербія. Ён арганізаваў звяржэнне Мілошавіча і першы заклікаў да таго, каб Сербія стала сябрам ЕС. Усяго праз 9 гадоў пасля забойства мара нябожчыка стала рэальнай — надоечы Сербія атрымала статус краіны-кандыдата ў ЕС. Хаця ў краіны яшчэ шмат праблемаў, большасць аналітыкаў аптымістычна глядзяць у будучыню. Лічыцца, што Сербія абавязкова атрымае статус сяброўства ў Еўрасаюзе як мінімум да 1 жніўня 2014 года, роўна праз сто гадоў пасля пачатку Першай сусветнай вайны. Далучэнне Сербіі да ЕС павінна паставіць сімвалічную кропку ў еўрапейскіх канфліктах, пра што таксама заўсёды марыў сам Джынджыч. Хаця цалкам лозунгі Джынджыча наўрад ці будуць выкананыя ў 2014-м. Падчас свайго жыцця ён заклікаў суайчыннікаў адмовіцца ды ідэі наконт таго, што Косава застанецца сербскім краем. Між тым, цяперашні сербскі ўрад катэгарычна не жадае адмаўляцца да прэтэнзій на Косава, большасць насельніцтва якога складаюць не сербы, а албанцы.



СПАДЧЫНА

# ПРА ШТО НАГАДАЎ СТАРЫ ЗДЫМАК

Сяргей ЧЫГРЫН

**Гэтаму рэдкаму і гістарычнаму здымку — 80 гадоў. Ён друкуецца ўпершыню. На ім сфатаграфаваны ўрад Беларускага студэнцкага саюза (БСС) Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў 1932 годзе.**



Такі Беларускі студэнцкі саюз насамрэч існаваў у Віленскім універсітэце з 1920 года. Менавіта тады беларусы Віленскага ўніверсітэта заснавалі Гурток студэнтаў-беларусаў, які ў 1921 годзе стаў называцца Беларускі студэнцкі саюз. Яго заснавальнікамі былі Браніслаў Туронак, Антон Абрамовіч, Францішак Пяткевіч, Тодар Куніцкі і Мікалай Марцінчык. Усе яны з'яўляліся студэнтамі медыцынскага факультэта ўніверсітэта. Старшынёй быў абраны Антон Абрамовіч.

Беларускі студэнцкі саюз праводзіў культурна-асветніцкую дзейнасць, даваў пазыкі і стыпендыі сваім сябрам, якія былі з бедных сем'яў. Пры саюзе існаваў славуты хор Рыгора Шырмы, у якім спявалі пераважна студэнты, і які адзін час называўся Беларускі хор пры Беларускім студэнцкім саюзе. Існавалі там і курсы беларускай мовы, беларусазнаўства, кааперацыі, дзейнічала сталоўка «Беларуская сытніца».

БСС прымаў актыўны ўдзел у самакіраванні ўніверсітэта і ў вырашэнні шматлікіх пытанняў універсітэцкага жыцця. Беларускі студэнцкі саюз (БСС) быў самай значнай і буйной беларускай арганізацыяй у Віленскім універсітэце, пры гэтым, і самай трывалай, праіснаваўшы да моманту скасавання самога ўніверсітэта. За ўвесь час існавання саюза, яго сябрамі былі каля 300 асоб, розных па нацыянальнасці, але найперш беларусаў.

А цяпер вернемся да фотаздымка. На ім злева направа сядзяць Эма Залкінд, Эрвін Кашмідэр, Марыя Мілюць, Станіслаў Станкевіч. Стаяць злева направа Янка Хвораст, Мар'ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч. Лёс гэтых людзей склаўся па-рознаму. Пра адных мы ведаем шмат, пра іншых — амаль нічога.

Пра Эму Залкінд вядома толькі, што яна па нацыянальнасці была яўрэйкай, выкладала ва ўніверсітэце гісторыю. Але заўсёды падтрымлівала беларусаў, прымала ўдзел у розных мерапрыемствах, якія праводзіў БСС.

Кіраўніцтва ўніверсітэта імкнулася кантраляваць дзейнасць студэнцкіх таварыстваў. З гэтай мэтай сенат выдаваў спецыяльныя пастановы, апроч якіх існавалі і адмысловыя «Указанні ўніверсітэцкіх уладаў па кантролю за дзейнасцю студэнцкіх арганізацый». Паводле гэтых дакументаў, за кожным студэнцкім таварыствам быў замацаваны куратар з ліку ўніверсітэцкіх выкладчыкаў, якога зацвярджаў сенат. Куратар сачыў за тым, каб дзейнасць студэнцкага таварыства адпавядала закону і статуту. Ён жа выконваў функцыі апекуна студэнцкай арганізацыі, прадстаўляў яе інтарэсы перад універсітэцкімі ўладамі. Куратарамі БСС былі вядомыя і паважаныя не толькі ў Вільні, але і ва ўсёй Польшчы ды за яе межамі прафесары Станіслаў Уладычка, Эрвін Кашмідэр, Ежы Гопен.

Эрвін Кашмідэр, які сядзіць на здымку другі злева, хоць і быў немец па паходжанню, але не застаўся ўбаку ад праблем беларускай моладзі. Будучы доктарам славістыкі, ён мог нават з навуковага гледжання разглядаць беларускае пытанне. Эрвін Кашмідэр актыўна наведваў пасяджэнні праўлення арганізацыі, куратарам якіх ён быў, разам з беларускімі студэнтамі перажываў іх поспехі і праблемы. Ён шчыра апекаваўся справамі саюза, прыкладаў усе свае намаганні, каб аб'ектыўна знаходзіць выйсце ў канфліктных сітуацыях, якія ўзнікалі часам паміж сябрамі беларускіх студэнцкіх арганізацый. І толькі тады, калі Эрвін Кашмідэр пераехаў з Вільні ў Мюнхен на сталае месца жыхарства, быў вымушаны пакінуць сваё куратарства над БСС. Эх, знайсці б у Мюнхене сёння дзяцей ці ўнукаў Кашмідэра, а раптам ён пакінуў успаміны пра Віленскі ўніверсітэт, Беларускі студэнцкі саюз і фотаздымкі…

Марыя Мілюць, якая сядзіць злева ад Эрвіна Кашмідэра, была родам з Навагрудскага павета. Гэта родная старэйшая сястра паэта Алеся Мілюця (1908–1944), які загінуў у гады Другой сусветнай вайны ва Усходняй Прусіі.

Побач з Марыяй Мілюць — Станіслаў Станкевіч (1907–1980) — беларускі літаратуразнавец, грамадска-культурны дзеяч, публіцыст, крытык. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і Віленскі ўніверсітэт, дзе ў 1933 годзе абараніў магістэрскую дысертацыю на тэму «Беларуская стыхія ў творах Элізы Ажэшкі». У 1936 годзе за працу «Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі» атрымаў ступень доктара філасофіі ў галіне польскай і славянскай літаратуры. Падчас навучання ва ўніверсітэце прымаў удзел у Беларускім студэнцкім саюзе, рэдагаваў «Крыніцу» і «Студэнцкую думку», з'яўляўся стваральнікам і старшынёй універсітэцкага Таварыства прыяцеляў беларусаведы. Рабіў шматлікія публікацыі на тэмы беларускай літаратуры ў Віленскай беларускай прэсе.

Трох прыгожых хлопцаў, якія стаяць, адразу пазнаюць тыя, хто цікавіцца нашай гісторыяй. Гэта Янка Хвораст, Мар'ян Пецюкевіч і Хведар Ільяшэвіч.

Беларускі танцоўшчык, балетмайстар, збіральнік беларускага фальклору, заслужаны работнік культуры Беларусі Янка Хвораст (1902–1983) быў родам з Пружаншчыны. Навучаўся ў Віленскай беларускай гімназіі, дзе і распачаў творчую дзейнасць як саліст танцавальнай групы хору славянскай песні. Пасля паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе быў адным з кіраўнікоў музычна-драматычнай секцыі Беларускага студэнцкага саюза. Адначасова вучыўся ў прыватнай школе балетнага майстэрства. Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР з'яўляўся кіраўніком харэаграфічнай групы Беларускага ансамбля песні і танца пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы, а таксама салістам балета Беларускай філармоніі.

Беларускі этнограф, педагог і мемуарыст Мар'ян Пецюкевіч (1904–1983) нарадзіўся ў сям'і малазямельнага селяніна-каталіка на Браслаўшчыне. Пачатковую адукацыю атрымаў у Шаўлянскім народным вучылішчы і самастойна. Пасля Першай сусветнай вайны з дапамогай беларускіх ксяндзоў В. Шутовіча і А. Станкевіча трапіў у Віленскую беларускую гімназію, прымаў актыўны ўдзел у беларускім нацыянальным руху, пасля вучыўся Радашковіцкай беларускай гімназіі. Паспрабаваў выехаць для вучобы ў Прагу. Пры нелегальным пераходзе мяжы быў затрыманы. Адпраўлены служыць у польскае войска. Пасля службы ў войску паступіў на гуманітарны факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, дзе вывучаў этнаграфію, археалогію, славістыку, а ў 1938 годзе атрымаў ступень магістра філасофіі. Яшчэ падчас вучобы ўладкаваўся на працу ў бібліятэку Інстытута Усходняй Еўропы (цяпер Бібліятэка імя Урублеўскіх), меў доступ да спецфондаў, сярод якіх былі выданні з БССР. Дапамагаў многім віленскім беларусам знаёміцца з забароненымі ў Польшчы выданнямі. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага навуковага таварыства. У 1930–1935 гадах — першы рэдактар часопіса «Шлях моладзі», змяшчаў у ім свае творы пад псеўданімам Марвіч, пры канфіскацыях нумароў часопіса двойчы прыцягваўся да судовай адказнасці, некалькі разоў быў пакараны грашовымі штрафамі. На грамадскіх пачатках супрацоўнічаў з Беларускім музеем Івана Луцкевіча.

Пасля вайны ў 1949 годзе разам з сям'ёй быў арыштаваны і сасланы ў Краснаярскі край. А ў 1952 годзе, паводле пастановы генеральнага пракурора Літоўскай ССР, зноў арыштаваны, дастаўлены ў Вільню і асуджаны за «нацыяналізм» на 25 гадоў пазбаўлення волі. І толькі ў 1957 годзе, пасля перагляду справы, быў вызвалены і па рэпатрыяцыі пераехаў у Польшчу, куды ўжо раней выехалі яго жонка і дачка. Дзякуючы дапамозе прафесараў-этнолагаў Казіміра Машыньскага і Марыі Знамяроўскай-Прыферовай, з 1959 года ўладкаваўся на працу ў этнаграфічны аддзел акруговага музея горада Торуні, адкуль выйшаў на пенсію.

У Польшчы Марыян Пецюкевіч, хоць жыў у Торуні, быў звязаны з беларускім рухам на Беласточчыне. Шмат увагі ў сваёй дзейнасці аддаваў вывучэнню народнай культуры беларусаў Беласточчыны, правёў этнаграфічныя экспедыцыі на Сакольшчыне і Гайнаўшчыне. Хацеў арганізаваць Беларускі музей у Польшчы. Як сведка і ўдзельнік беларускага нацыянальнага руху, супрацоўнічаў з гісторыкамі Юрыем Туронкам і Аляксандрай Бергман. Быў адным са стваральнікаў літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Пасля смерці з друку выйшла некалькі ягоных кніг па этнаграфіі, кніг успамінаў і эпісталярнай спадчыны.

Папулярны заходнебеларускі паэт 1930-х гадоў Хведар Ільяшэвіч меў Божы дар. Ён скончыў Віленскую беларускую гімназію і гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. У 26 гадоў стаў магістрам філасофіі за дысертацыю «Друкарня дома Мамонічаў у Вільні». Вершы і празаічныя абразкі пачаў пісаць рана. Друкаваў іх у «Студэнцкай думцы», «Беларускай ніве», «Крыніцы». У 1922 годзе ў Вільні выйшаў яго першы паэтычны зборнік «Веснапесні». Пасля свет пабачылі яшчэ два — «Зорным шляхам» (1932) і «Захварбаваныя вершы» (1936). Пры жыцці ў Хведара Ільяшэвіча выйшла яшчэ адна кніжачка пра лёс і літаратурную творчасць Ядвігіна Ш. Вось і ўсё, што паспеў зрабіць ён за свае 38 гадоў (загінуў у аўтамабільнай катастрофе ў Германіі ў 1948 годзе). Ягоныя шматлікія апавяданні, крытычныя артыкулы, рэцэнзіі і пераклады раскіданы па заходнебеларускіх выданнях 1920–1940-х гадоў і даўно просяцца пад адну вокладку.

Вось такі лёс сяброў Беларускага студэнцкага саюза, пра якіх нагадаў гэты стары фотаздымак.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ВЫРАШАНЫ ЛЁС ПРЭМІІ ІМЯ ЕЖЫ ГЕДРОЙЦА

Алесь ГІНЗБУРГ

**3 сакавіка, у Міжнародны дзень пісьменніка, у Палацы мастацтваў уручылі Літаратурную прэмію імя Ежы Гедройца. Гэта новая для беларускай літаратуры прэмія, заснаваная літаральна сёлета. Яе адметнасць у тым, што ганаравацца ёю могуць толькі празаікі, якія пішуць па-беларуску. Пераможца атрымаў 105 мільёнаў беларускіх рублёў ад ЗАТ «Самбелбанк».**




## «МІРУ — ТАК!»

### Слова пераможца прэміі Паўла Касцюкевіча падчас атрымання ўзнагароды

«Апошні раз грамату за сваю творчасць я атрымаў у трэцім класе за конкурс малюнка на асфальце.

Быў 1987-ы. Усё пакуль што не развальвалася, але адназначна сыпалася. Нас, вучняў малодшых класаў 148-й мінскай школы, вывелі на школьны падворак і сказалі маляваць. Кожнаму вылучылі па бетоннай пліце, а пасярод падворка паставілі скрыню, якая нагадвала хутчэй пясочніцу. Скрыня была поўная каляровых крэйдаў.

Я не вялікі аматар малюнка. У дадатак не надта вялікі мастак. Аднак трэба дык трэба. Я ўзяў чорную крэйду і спраўна намаляваў абрыс нейтроннай бомбы. Потым узяў чырвоную крэйду і перакрэсліў тую бомбу ахайнымі пасочкамі. Потым зноў выцягнуў чырвоны колер і падпісаў усё мастацтва: «Нет войне!»

Да майго здзіўлення, праз некаторы час да мяне падышоў важаты, ці хто там, і ўручыў грамату за ІІІ месца ў конкурсе. Я, вядома, здзівіўся, але значна больш здзівіўся мой сябар Дзяніс Кавалёў, які незалежна ад мяне намаляваў кроплю ў кроплю, штрых у штрых, тое ж самае: пазакрэсленую бомбу і надпіс: «Нет войне!»

Мы сталі падазрона азірацца. Да нашага яшчэ большага здзіўлення, мы згледзелі, што астатнія дзеці на суседніх плітах стварылі прыблізна тое ж самае: надпіс «Нет войне!» і ўсякае featured рознае перакрэсленае: ці то танк, ці то аўтамат, ці то здзекліва намаляваны амерыканскі сцяг. Нават другое месца заняў вучань, які намаляваў перакрэслены грыб атамнага выбуху.

Хто ж узяў першае месца? Урэшце нас падвялі да пліты-пераможцы. Не памятаю, хто быў аўтар, хлопчык ці дзяўчынка, але малюнак памятаю дакладна.

На пліце ў бела-блакітных пастэльных тонах быў выяўлены ўкормлены голуб. Аптымістычны, пазітыўны, жыццядайны. Аўтар нават намаляваў яму ружовы шчочкі. І вось гэты голуб, замест таго, каб трымаць у дзюбе пальмавую галіну з нязмушаным выглядам дажоўваў якогасьці чорнага арла ці каршука, які дзіка аглядаў свет — трэба думаць, у апошні раз — сваім чорным злавесным вокам.

Увесь жывапіс вянчаў надпіс: «Да — миру!».

Гэта стала для мяне першым у жыцці майстар-класам таго, чым ёсць сапраўднае мастацтва».

## Тройка лідараў

«Мы не можам тут заставацца! — заяўляла на ўсё фае тэлежурналістка ў ярка-жоўтай куртцы. — Вы, відаць, не разумееце. Выведзіце нам намесніка пасла, лаўрэата, мы запісваем пяць хвілінаў — і ўсё!» Замучаныя арганізатары мармыталі нешта пра тое, што «выводзіць намесніка» не ўваходзіць у іх кампетэнцыю, а імя лаўрэата будзе абвешчана толькі праз гадзіну, але ўрэшце здаліся і паклікалі з залі госця з Гамбурга Альгерда Бахарэвіча. У гэты момант усе, хто сачыў за размовай, глыбока задумаліся.

Абмінаючы гэтую самую гадзінную інтрыгу, скажу, што ў пытанні пераможцы «народ» і «крытыкі» катэгарычна разышліся. Калі ў кулуарах зацята выбіралі паміж дакументальнай аповесцю «След матылька» Аляксандра Лукашука і «ваенным раманам» «Шалом» Артура Клінава, то журы, як выявілася, ламала дзіды вакол першынства «Зборнай РБ па негалоўных відах спорту» Паўла Касцюкевіча і «Малой медычнай энцыклапедыяй» Альгерда Бахарэвіча. І калі народнае інтэрнэт-галасаванне з вялікім адрывам выйграў Артур Клінаў, то прафесійнае журы аддало перамогу Паўлу Касцюкевічу.

Другое месца прэміі — права выдання кнігі ў Польшчы і творчую стыпендыю ў Вроцлаве — атрымаў Альгерд Бахарэвіч.

Трэцяе месца (і таксама творчая стыпендыя ва Вроцлаве) дасталося Андрэю Федарэнку за аўтабіяграфічны раман-эсэ «Мяжа».

Без узнагародаў засталіся трое: згаданыя ўжо Артур Клінаў і Аляксандр Лукашук, а таксама Уладзіслаў Ахроменка з яго «кінараманам-фарсам» «Тэорыя змовы».

Для мяне як для гледача вялікай цікавосткай стала прэамбула да ўзнагародаў — чытка акторамі-купалаўцамі Віталём Краўчанкам, Паўлам Харланчуком, Аляксандрам Маўчанавым і Валянцінай Гарцуевай фрагментаў кніжак. Гэта быў самы спакойны момант, калі яшчэ не пачаліся сваркі і звады, боль і горыч, а ўсе мы разам ляцелі да зор. Такога эфекту дамагалася рэжысёр Тацяна Арцімовіч. Авацыі нязменна зрываў Павел Харланчук, чый талент увасабляць, здавалася б, зусім «несцэнічную літаратуру» не ведаў межаў. Яшчэ варта адзначыць высокапрафесійная Віталя Краўчанку... Музычным аздабленнем цырымоніі стаў джазавы гурт «Рацыянальная дыета».

## Скандалы вакол прэміі

Варта пералічыць іх адным блокам, каб больш да гэтай тэмы не вяртацца. У любым выпадку, медыйны розгалас быў створаны значны, і зусім ціха «распілаваць Гедройца» наўрад ці ўдалося б. Такім чынам, па парадку.

**Скандал першы.** Па выніках абвяшчэння лонг-ліста на прэс-канферэнцыі гучна ляснуў дзвярмі заслужаны беларускі пісьменнік Віктар Карамазаў, чый раман не трапіў у шасцёрку фіналістаў. Аўтар раману «Мастак і парабкі» ахрысціў усю задуму з прэміяй «дзяльбой кабанчыка», скарыстаўшыся метафарай са свайго іншага, хрэстаматыйнага твору, і ў спецыяльным звароце да грамадскасці чарговы раз нагадаў гэтай самай грамадскасці, дзе праца крытык Людміла Рублеўская, якая, між іншага, напісала на раман «Мастак і парабкі» больш чым добразычлівую рэцэнзію. Карамазаў паставіў пад пытанне маральнасць сяброў журы і намякнуў пра пачатак антыпрэміяльнай кампаніі. Іронія лёсу ў тым, што, калі даваць веры крыніцам, блізкім да журы прэміі Гедройца, гэтае самае журы мела сур'ёзны намер уручыць Віктару Карамазаву спецыяльны прыз — за заслугі перад беларускай літаратурай. Але пасля бескампраміснай адмовы Карамазава мець дачыненне да прэміі пабаялася выглядаць па-дурному і свой намер перагледзела.

**Скандал другі.** Напярэдадні 3 сакавіка беларускі МЗС фактычна выслаў з краіны аўтара прэміі Гедройца — надзвычайнага і паўнамоцнага амбасадара РП у РБ Лешака Шарэпку. Ясная справа, палітычны скандал разгарэўся зусім не праз любоў дыпламата да беларускай літаратуры, але, як яно заўсёды здараецца, палітыка магла кінуць цень на культуру. На шчасце, да гэтага не дайшло і, па словах вядоўцы цырымоніі Андрэя Хадановіча, інцыдэнт не стаў перашкодай да свята беларускай літаратуры. Прадставіў польскі бок аргкамітэту прэміі часовы паверацы ў справах Польшчы Вітальд Юраш.

**Скандал трэці.** На цырымонію ўручэння атрымаць трэці прыз не прыйшоў Андрэй Федарэнка. Меркаванні ў кулуарах зноў жа падзяліліся. Прыхільнікі творчасці Федарэнкі тлумачылі гэта сціпласцю і неамбітнасцю аўтара. Іншыя ж, наадварот, выводзілі адсутнасць з амбіцый — маўляў, або галоўны прыз, або нічога. Многія згадвалі сяброўства Федарэнкі ў чаргінцоўскім саюзе пісьменнікаў і сцвярджалі, што аўтар проста забаяўся звязвацца з прэміяй, да ўручэння якой у маюць дачыненне «прагнілы Захад» (у асобе Лешака Шарэпкі) і «нячэсны» пісьменніцкі саюз з ПЭН-Цэнтрам за кампанію. Цікава, што на цырымоніі ўручэння прасачыўся сябар прызёра — скандальны паэт Сяргей Вераціла. Вераціла адсутнасць Федарэнкі патлумачыў так: «Андрэй сказаў, тут няма з кім побач стаяць!» Чаму, зрэшты, ведаючы дыпламатычнасць аўтара «Мяжы», ніхто не даў веры.

**Скандал чацвёрты.** Прэмія дасталася Паўлу Касцюкевічу, пры тым, што арганізатарам была яго жонка Марыя Мартысевіч. Асабліва версію «кумаўства» лабіруюць тыя, хто не ўпадабаў кнігу Касцюкевіча або лічыць яго прозу слабой. Сама Мартысевіч у «Фэйсбуку» пракаментавала «свой жыццёвы выбар і выбар журы прэміі Гедройца» наступным чынам: «Ёсць людзі, якія перакананыя, што Павел атрымаў прэмію, таму што я была яе сакратаркай. Але чамусьці ніхто не дапускае, што я выйшла замуж за гэтага чалавека якраз і таму, што ён піша крутую прозу». Не было б Мартысевіч, Касцюкевічу непазбежна прыгадалі б, ад бяды, яўрэйскае паходжанне і ізраільскае грамадзянства.

**Скандал пяты.** Рэжысёр цырымоніі фатальна абышоўся з відэазваротам з Прагі дырэктара «Радыё Свабода» Аляксандра Лукашука. Ролік на экран праектара не змаглі запусціць ажно тройчы! Урачысты момант быў сур'ёзна сапсаваны.

І, нарэшце, **скандал шосты.** Калі ўсё скончылася, да Альгерда Бахарэвіча падбег малады чалавек арыйскай знешнасці і са словамі «Гэта за Купалу!» заехаў Бахарэвічу ў твар. Па чутках, маладзён быў падасланы прававарадыкальным паэтам Славамірам Адамовічам. Праўда, сведкі сцвярджаюць, што арыец выглядаў вельмі перапужана, а ўдар быў нямоцным. У гэтым святле перамога, аддадзеная Паўлу Касцюкевічу, выглядае з боку журы больш чым асцярожна. Ёсць небяспека, што калі б вялікую, як на Беларусь, суму ўзнагароды атрымаў рэзідэнт Нямеччыны і аўтар кнігі «Гамбургскі рахунак», адным кухталём беларускія нацысты не абмежаваліся б.

## Навошта пісьменніку грошы?

Не стамляюся адказваць на гэтае пытанне ў сваіх культаглядах. Яшчэ зусім нядаўна існавала перакананне, што добры пісьменнік — галодны пісьменнік і што вымяраць мастацтва грашыма — нясціпла, непрыгожа і ўвогуле — блюзнерства. На пісьменнікаў крыўдавалі, калі тыя не раздорвалі, а прадавалі кнігі, выдадзеныя, як правіла, уласным коштам. Калі меркаваць па тоне дыскусій вакол прэміі Гедройца, да думкі, што творчая праца павінна заахвочвацца матэрыяльна, у постсавецкай Беларусі яшчэ не прызвычаіліся. Магчыма, праблема ў самой адсутнасці да апошняга часу прэстыжных (чытай — грашовых) прэмій. У тым, што ў нас увогуле баяцца называць публічна суму любых узнагародаў. Зрэшты, са з'яўленнем у 2010 годзе беларускай прэміі «Дэбют» і польска-беларускай прэміі Гедройца з'явілася надзея, што беларуская літаратура пакрысе выпаўзе з гета, а самі прэміі дапамогуць нашым аўтарам «людзьмі звацца».

Новую прэмію Гедройца можна параўнаць з расійскім Букерам, які ўручаецца штогод за найлепшую кнігу прозы на рускай мове і з аналагічнай украінскай Літаратурнай прэміяй імя Джозэфа Конрада, якую з «Гедройцам» родніць яшчэ і тое, што яе заснавальнікі — польскія арганізацыі Украіны, а пераможца выпраўляецца на паўгадавую стыпендыю ў Польшчу і атрымлівае ўзнагароду прыблізна ў 3000 еўра.

У гэтым плане беларускі «Гедройц» дае фору ўкраінскаму «Конраду», але ўсё адно не даганяе Букера, дзе кожны шорт-фіналіст атрымлівае па 2000 долараў, а галоўны прыз складае 20 000 у гэтай валюце.

Зрэшты, калі параўноўваць з суседняй Польшчай, прэмія Гедройца мае сціплы размах. Як слушна падказвае пісьменнік Міхась Андрасюк, 10 000 еўра (прыблізны эквівалент прэміі Гедройца, ад якой, дарэчы, па беларускіх законах аўтаматычна адымуць 12% падаходнага падатку) — памер, напрыклад, літаратурнай прэміі, якую ўручае мэр Беластока, а гэта далёка не самая буйная культурная ўзнагарода Польшчы.

На думку нядаўняга лаўрэата прэміі Конрада Сяргія Жадана (атрымаў яе ў 2011 годзе за раман «Варашылаўград»), «на прэміі арыентуецца чытач, на іх рэагуе крытыка, яны пэўным чынам маркіруюць літаратурны працэс. Для саміх пісьменнікаў, я падазраю, усё гэта не так істотна».

Так ці інакш, пасля 3 сакавіка ўсё часцей можна пачуць пытанне: «А дзе набыць кнігі фіналістаў прэміі Гедройца?» Мне, як патрыёту бельліту, гэта прыемна.

Рэдакцыя НЧ віншуе Паўла Касцюкевіча з перамогай, а Альгерда Бахарэвіча і Андрэя Федарэнку — з прызёрствам. Няхай жыве літаратура!

▸ **КАНЦЭРТЫ І ПРЭЗЕНТАЦЫІ**

# «ПОЛАЦКІ СШЫТАК» ЯК НАЦЫЯНАЛЬНЫ БРЭНД

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Не так даўно адбылася падзея, якую шмат гадоў чакалі слухачы, крытыкі, музыказнаўцы і ўсе зацікаўленыя ў развіцці беларускай музычнай культуры: пабачыў свет доўгачаканы альбом з творамі легендарнага музычнага помніка — «Полацкага сшытка» з удзелам гурта сярэднявечнай музыкі «Стары Ольса».**

Сапраўдны прарыў у папулярызацыі знакамітай знаходкі сумеснымі намаганнямі ажыццявілі выдавец і прадзюсер сярэднявечных музычных праектаў Арына Вележ і выдаючая кампанія БМAgroup.

А пачалося ўсё з першай разгорнутай публікацыі на тэму «Полацкага сшытка» ў газеце «Чырвоная змена» (№208 ад 30 кастрычніка 1985 года), карэспандэнтам якой В. Мартыненку і аўтару гэтых радкоў прафесар-беларусазнаўца Адам Мальдзіс распавёў гісторыю знаходкі ў Ягелонскай бібліятэцы рукапіснага сшытку з таямнічымі знакамі — нотнага зборніка з больш як двума сотнямі твораў свецкай музычнай культуры беларускіх зямель XVII стагоддзя. З гэтага часу многія айчынныя выканаўцы, гурты і ансамблі старажытнай музыкі пачалі прапаноўваць слухачам свае апрацоўкі, версіі і трактоўкі твораў беларускай свецкай (па цяперашняй тэрміналогіі — папулярнай) музыкі. Гэта былі гады плённага асэнсавання музычнай спадчыны нашага народа.

Паколькі музычны помнік быў адкрыты ў Польшчы, да таго ж яго паходжанне таксама стала прадметам гістарычных спрэчак (вёска Астрамечава ёсць не толькі на Полаччыне), кожная зацікаўленая краіна імкнулася давесці сваё права на наследаванне музычнага рукапісу. Напрыклад, у Польшчы «Полацкі сшытак» называюць «Ягелонскі рукапіс 127/56». Творы з яго былі ўпершыню запісаны і выдадзены на фірме гуказапісу «MUZA» (1972 г.) гуртом старажытнай музыкі «Fistulatores et Tubicinatores Varsovienses» пад рубрыкай «Musica Antiqua Polonica». Такі ж дыск з творамі свецкай музыкі XVII стагоддзя быў выдадзены ўкраінскімі выканаўцамі, у прыватнасці Нінай Матвіенка і ансамблем даўняй музыкі К. Чэчэні...

Былі спробы айчынных выканаўцаў захаваць на аналагавых і лічбавых носьбітах нашу музычную спадчыну, якая прыцягвала ўсе больш і больш выканаўцаў рознага ўзроўню і стылістычнай накіраванасці. Так, версія часткі твораў «Полацкага сшытка» была запісана інструментальным складам танцавальнага гурта «Харошкі» і выдадзена на вінілавым дыску. Асобныя творы выконваліся і выдаваліся на дысках беларускімі ансамблямі «Cantabile», «Contredance», «Brevis», «Lituus». Апошні прыклад выдання «Полацкага сшытка» быў прадстаўлены гуртом старажытнай музыкі «Стары Ольса» на іх сольным альбоме «Дрыгула». Але, як падкрэсліў музычны крытык Вітаўт Мартыненка, гэты дыск, як і іншыя спробы, не выканалі асноўную мэту такога выдання — дыскі не стварылі са знаходкі Адама Мальдзіса сапраўднага нацыянальнага брэнда. «Дзе на вокладцы дыска можна прачытаць, што гэта «Полацкі сшытак»?» — са скрухай пытаўся ў музыкантаў і выдаўцоў Вітаўт.

Гэта зразумелі каманда выдаўцоў БМAgroup і Арына Вележ, якія ўзяліся стварыць такі артэфакт. Тым больш, што матэрыялу для альбома пад доўгачаканай назвай назапашана было дастаткова. Хутка ідэя набыла сваё рэальнае аблічча: дыск, як займеў падзагаловак «the best interpretation», прадстаўляе 28 самых яркіх твораў «Полацкага сшытка» ў розных стылістычных афарбоўках. З'яўленне на нашых музычных паліцах і ў каталогах дыска са знакамітым музычным помнікам стала сведчаннем таго, што «Полацкі сшытак» пераўтварыўся ў трывалы чыннік музычнай спадчыны беларусаў.

Тое, як бы мог гучаць «Полацкі сшытак», гурт «Стары Ольса» прадставіў на прэзентацыі згаданага дыска ў рэчышчы ўсёй сваёй творчасці. Таму на канцэрце гучалі не толькі п'есы з новага дыска, але і кампазіцыі, рэканструяваныя для альбому «Гераічны эпас Вялікага Княства»: «Ліцьвін», «Абарона Крычава», «Аршанская бітва», «Рыцар Вайда», «Будзінаўская бітва» і іншыя кампазіцыі, якія складаюць гераічны эпас нашых продкаў.

Што тычыцца «Полацкага сшытка», то ён быў выкананы музыкамі на такім узроўні, што яго творы адразу палюбіліся слухачам, і ні ў каго не ўзнікла сумненняў у беларускім паходжанні музыкі з гэтага зборніка.

Трэба адзначыць, ідэя адмысловага выдання асобным дыскам «Полацкага сшытка» была настолькі моцнай і надзённай, што быццам бы шмат гадоў «вісела ў паветры» беларускага культурніцкага кантэксту. І вось час адраджэння помніка беларускай свецкай музыкі прыспеў. І якое ж было здзіўленне слухачоў, крытыкаў і музыказнаўцаў, калі яны даведаліся, што цяпер у Беларусі выдадзены «Полацкі сшытак» ажно ў двух варыянтах! Яшчэ адну спробу адраджэння «Полацкага сшытка» зрабіла кампанія «Вігма» і незалежны выдавец старажытнай беларускай музыкі Уладзімір Азёма.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 227

Падпісана да друку 07.03.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.